

# Навіны

Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"

сьнежань 1992 г.

№ 5

Выдаецца са сьнежня 1988.

Кошт 2 рублі

**Глыбокапаважаныя чытачы "Навінаў"!**

**Віншуем Вас з найвялікшым хрысьціянскім сьвятам – Нараджэньнем Хрыстовым і з Новым годам!**

Здавалася б, напярэдадні такіх сьветлых сьвятаў трэ' было б гаварыць пра нешта радаснае і духоўнае. Аднак наш палітызаваны час дыктуе свае тэмы. Гэты нумар газэты, прымеркаваны на канец году, прысьвечаны справе рэфэрэндуму на Беларусі. Ініцыятыўная група рэфэрэндуму старанна і з увагі на неспрыяльныя абставіны бездакорна правяла збор подпісаў, строга пільнуючыся патрабаваньняў Закону. Згодна заключэньню Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме, рэфэрэндум павінен адбыцца. Бальшыня Вярхоўнага Савету, разумеючы, што будзе абазначаць для намэнклятуры правядзеньне рэфэрэндуму, цынічна растаптала закон, Канстытуцыю, правы людзей і незаконна адхіліла правядзеньне рэфэрэндуму. Страх згубіць уладу асьляпіў тых, хто яе трымае. Шмат якія дэпутаты так і не зразумелі, што яны пазбавілі Вярхоўны Савет легітымнасьці і падвялі міну пад усю вышэйшую заканадаўчую дзейнасьць у Рэспубліцы. Наступнаму парляманту, які, спадзяемся, будзе выбраны дэмакратычным шляхам, давядзецца пераглядаць і зацьвярджаць усе заканадаўчыя акты, прынятыя гэтым сходам пасьля 29 кастрычніка.

Рэфэрэндум павінен адбыцца. Незаконнае рашэньне ня мае законнай сілы. Орган, які ўзурпаваў уладу – ня мае даверу, а яго рашэньні – абавязковасьці.

Правядзеньне рэфэрэндуму застаецца пытаньнем часу, які маральна працуе на Народны Фронт, на карысьць беларускага грамадзтва.

## РЭФЭРЭНДУМ павінны адбыцца – гэта воля народу, і грэбаваць ёй ня мае права ніхто!




На Беларусі па-ранейшаму застаецца праблемай і нават абвастраецца інфармацыйны голад. Саўмін ведаў, што рабіў, калі манапалізаваў прэсу, радыё і ТБ: людзі практычна ня маюць альтэрнатыўнай інфармацыі, а значыць, ня могуць рабіць самастойных высноваў і змушаны давярацца афіцыйнай прапагандзе.

Зважаючы на гэта, а таксама на настойлівыя просьбы сяброў і прыхільнікаў Фронту, зьмяшчаем у гэтым нумары "Навінаў БНФ" асноўныя дакументы, якія датычаць рэфэрэндуму.

У новым, 1993-м годзе "Навіны БНФ" мяркуюць шырока асьвятляць палітычныя падзеі, эканамічныя ды нацыянальна-культурныя працэсы на Беларусі, у суседніх краінах і ў сьвеце, выяўляць іх прычыны, зьвяртацца па камэнтар да кампэтэнтных людзей. Натуральна, "Навіны" дадуць найпаўнейшае ўяўленьне пра дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", дэмакратычных партыяў нашай краіны як у Менску, гэтак і ў абласьцях і раёнах. Чытач зь першых рук будзе знаёміцца з пастаравю Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, з распрацоўкамі й прапановамі Фронту, скіраванымі на выйсьце зь цяжкога крызысу.

"Навіны БНФ" аднаўляюць рэгулярны выхад. З другога паўгодзьдзя 1993 г. Вы зможаце падпісацца на іх як на двутыднёвік.

## Беларусь – наш дом

### Заява Сойму БНФ "Адраджэньне"

Вярхоўны Савет Беларусі зрабіў чарговы крок да свайго бясслаўнага сконў. 29 кастрычніка 1992 году, праігнараваўшы высновы Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме і сфальсыфікаваўшы іх, Вярхоўны Савет, ня маючы на тое ані канстытуцыйнага, ані законнага права, адхіліў патрабаваньне рэфэрэндуму – волю больш як 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі.

Асноўны вынік забароны рэфэрэндуму – пераўтварэньне Вярхоўнага Савету ў нелегітымную структуру, у намэнклятурны сход, які ўтрымлівае ўладу незаконнымі сродкамі. Асаблівую трывогу выклікае тое, што заканадаўчыя акты, прынятыя пасьля 29 кастрычніка – як акты ўзурпаванай улады – фактычна страчваюць праўную абавязковасьць. Для дзяржавы гэты стан надзвычай небясьпечны, асабліва ў сытуацыі, калі праяўляюцца спробы кампрадорскай намэнклятуры адмяніць раней прынятыя дэмакратычныя заканадаўчыя палажэньні, адкрыць дарогу на Беларусь расейскаму нэакаляніялізму і нават ліквідаваць Рэспубліку Беларусь.

Бяз моцнай незалежнай дзяржавы немагчыма ажыцьцявіць рэформу эканомікі так, каб народ з карысьцю для сябе распараджаўся вынікамі сваёй працы. Але намэнклятурнай дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савету, якая працуе ва ўрадавых і камэрцыйных структурах і кіруецца правілам "пасьля нас хоць патоп", захаваньне дэпутацкіх мандатаў патрэбнае толькі для таго, каб пасьпець "прыхватызаваць" як найбольш, стварыць самім сабе

Працяг на трэцяй старонцы

## Супольная заява

### грамадзка-палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, аб'яднаных у блёк "РЭФЭРЭНДУМ"

Вярхоўны Савет адмовіўся выканаць законнае патрабаваньне выбаршчыкаў і не прызначыў даты рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. Улады Беларусі засьведчылі непавагу да народу, волю якога абавязаны выяўляць. Яны бесцырымонна пераступілі праз закон, у той час калі Ініцыятыўная група рэфэрэндуму як правядзейны прадстаўнік інтарэсаў і абаронца волі 442 тыс. грамадзянаў Беларусі закон бездакорна выканала. Улады ж зламалі правы чалавека і падарвалі гэтым міжнародны прэстыж Беларусі.

Мэта былой камуністычнай намэнклятуры – выйграць час і дарэшты "прыхватызаваць" краіну. Адмаўляючы народу ў законным праве на рэфэрэндум, кіраўнічыя колы думаюць пра ўласнае ўзбагачэньне й матэрыяльныя гарантыі – коштам жабрацтва народу й страты незалежнасьці Беларусі. Але гісторыя няўмольная, падмануць яе нельга ніякай дэмагогіяй і хлусьнёй. Галоўны юрыдычны і палітычны вынік падзеі – тое, што Вярхоўны Савет з моманту галасаваньня супраць рэфэрэндуму стаў нелегітымным і незаконна захоўвае ўладу. Адстойвае законнасьць толькі дэпутацкая Апазыцыя БНФ, прагаласаваўшы за правядзеньне рэфэрэндуму і дамагаючыся перагляду бяспраўнага рашэньня.

Рэфэрэндум стаў выпрабаваньнем маладых беларускіх дэмакратычных сілаў на адзінства, на пасьлядоўнасьць і вернасьць прынцыпам сапраўднага народаўладзьдзя. Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі партыяў і арганізацыяў – ініцыятараў рэфэрэндуму, пацьвярджаем нашу еднасьць у перакананьні, што ўсенароднае галасаваньне аб роспуску Вярхоўнага Савету і новых выбарах прафэсійнага вышэйшага органа ўлады паводле дэмакратычнага выбарчага

Працяг на трэцяй старонцы

## Зварот

### Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму да грамадзянаў Беларусі.

Грамадзяне Беларусі!

29 кастрычніка 1992 года Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову, якой забараніў правядзеньне рэфэрэндуму па пытаньні аб датэрміновых выбарах новага органа дзяржаўнай улады Беларусі і роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савету. Гэта беспрэцэдэнтны выпадак у практыцы дзеяньняў выбарных органаў, якія працуюць на падставе Закону. Беспадстаўна і гвалтоўна парушана права народу Беларусі законным шляхам, праз галасаваньне, выказаць свае адносіны да палітыкі Вярхоўнага Савету. Незаконна і гвалтоўна перакрэсьлена волевыяўленьне звыш 442 тысяч грамадзянаў, якія ў поўнай адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусі і Законам аб рэфэрэндуме адкрыта выступілі за рэфэрэндум.

Вярхоўны Савет Беларусі, які сам прыняў Закон аб рэфэрэндуме, надаў грамадзянам права быць ініцыятарамі вырашэньня пытаньняў, што закранаюць істотныя інтарэсы насельніцтва Беларусі. Зь першага студзеня 1992 года гэты Закон пачаў дзейнічаць. У поўнай адпаведнасьці зь ім у студзені была створана і пачала працаваць Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму.

На працягу 2-х месяцаў Ініцыятыўнай групай сабрана звыш 442 тысячаў подпісаў грамадзянаў Беларусі ў падтрымку прапановы правесьці рэфэрэндум па пытаньні аб датэрміновых выбарах на падставе новага дэмакратычнага закону. Уся гэтая праца праходзіла пад пільным кантролем і пры актыўным супрацьдзеяньні ўладаў. Парушэньні Закону з боку ўладаў выяўляліся ў адмове завяраць подпісы старшыні і членаў Ініцыятыўнай групы пячаткамі выканаўчых органаў улады, што

Працяг на трэцяй старонцы

## Віншаваньні

21 сьнежня 1992 года
г. Менск

**Старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады**
**спадару**
**Алегу Трусаву**

Вельмішаноўны спадар Трусаў,

ад імя Беларускага Народнага Фронту шчыра віншуем Вас з заслужаным выбраньнем на пасаду Старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

Мы ўпэўнены, што БСДГ і надалей будзе цьвёрда стаяць на пазыцыях умацаваньня незалежнасьці Беларусі, абароны дэмакратычных каштоўнасьцяў і нацыянальнага адраджэньня. БНФ "Адраджэньне" бачыць у БСДГ свайго натуральнага паплечніка ў змаганьні за гэтыя ідэалы.

Зычым Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадзе і асабіста Вам посьпехаў і плёну ў працы.

**Управа Сойму БНФ "Адраджэньне"**

21 сьнежня 1992 года
г. Менск

**Старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі**
**спадару**
**Аляксандру Дабравольскаму**

Вельмішаноўны спадар Дабравольскі,

сардэчна віншуем Вас з паўторным абраньнем на пасаду Старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі.

АДПБ – палітычная партыя, якая мае сваё адметнае абліча й заслужаны аўтарытэт. Выказваем перакананьне, што супрацоўніцтва аб'яднаных дэмакратаў і БНФ, асьвячонае супольнаю барацьбой супраць таталітарызму, будзе плённа працягвацца.

Шчыра зычым усяго найлепшага Вам і Вашай партыі.

**Управа Сойму БНФ "Адраджэньне"**

## Інфармацыя

9 –10 сьнежня ў Брусэлі адбылося паседжаньне Палітычнага бюро Інтэрнацыяналу хрысьціянскай дэмакратыі (ІХД). У паседжаньні брала ўдзел і беларуская дэлегацыя ў складзе сп.сп. А.Баршчэўскага, З.Пазьняка, Ю.Хадыкі (БНФ) і П.Сілкі (БХДЗ). Былі запрошаныя таксама прадстаўнікі хрысьціянска-дэмакратычных партыяў Арменіі, Грузіі, Расеі і Ўкраіны.

Адначасна ў будынку Эўрапарляманту адбывалася паседжаньне фракцыі Эўрапейскай народнай партыі (ЭНП). Пад гэтаю назваю аб'ядноўваюцца дэпутаты Эўрапарлямэнту з розных краінаў, якія падзяляюць ідэалёгію хрысьціянскай дэмакратыі, у тым ліку і прадстаўнікі Кансэрватыўнай партыі Вялікабрытаніі.

Кіраўнік дэлегацыі БНФ З.Пазьняк 10 сьнежня выступіў на пасяджэньні фракцыі ЭНП. У сваёй прамове ён ахарактарызаваў палітычны стан, у якім апынулася наша Рэспубліка пасьля гвалтоўнай забароны рэфэрэндуму Вярхоўным Саветам. Падкрэсьліў, што аналягічныя спробы спыніць працэс дэмакратычных пераўтварэньняў прадпрымаюцца посткамуністычнымі ўладамі і ў іншых краінах СНД. Супрацьзаконная забарона рэфэрэндуму ў Беларусі, які ўпершыню на тэрыторыі былога СССР быў арганізаваны па ініцыятыве зьнізу і ў строгай адпаведнасьці з патрабаваньнямі існуючага закону, ня толькі парушае ў масавым маштабе правы чалавека, але й руйнуе аснову праўнай дзяржавы і падрывае міжнародныя пазыцыі Беларусі, паколькі зьяўляецца парушэньнем абавязкаў, прынятых Беларусьсю ў межах НБСЕ. Напрыканцы сваёй прамовы, сустрэтай воплескамі, З.Пазьняк заклікаў дэпутатаў Эўрапарляманту не займаць пазыцыяў назіральнікаў ды аказаць маладой беларускай дэмакратыі рашучую падтрымку.

Паседжаньне палітбюро ІХД была прысьвечана падрыхтоўцы да чарговага Кангрэсу ІХД, які мае адбыцца ў сакавіку наступнага году ў тым жа Брусэлі. Абмяркоўвалася таксама праграма Ідэялягічнага Кангрэсу ІХД, які плянуецца на верасень 1993 года ў Сант'яга (Чылі). Абедзьве гэтыя імпрэзы адбудуцца пад лёзунгам "Хрысьціянская дэмакратыя будуе лепшы Сьвет", што адлюстроўвае посьпехі ў пашырэньні ўплыву хрысьціянскай дэмакратыі ў апошнія гады, асабліва ў Эўропе і Лацінскай Амэрыцы. Статус назіральніка ІХД атрымала Дэмакратычная партыя ЗША. Вядуцца перамовы аб наданьні такога ж статусу і Рэспубліканскай партыі. На нядаўніх выбарах на Філіпінах хрысьціянскія дэмакраты разам з мусульманамі дэмакратамі атрымалі поўную перамогу.

Пад канец паседжаньня Палітбюро ІХД было абвешчана аб стварэньні зьвязу Ўсходняй Эўропы. Дэклярацыю пра гэта падпісалі сп.сп. А.Аршакян (ХДПА), Г. Чантурыя (НДПГ), І. Шэнгелая (ХДПГ)Б В.Савіцкі (РХДП). Ад БХДЗ свой подпіс паставіў П.Сілка. Украінская дэлегацыя ад уваходжаньня ў ХДЗУЕ устрымалася.

БНФ, як шырокі грамадзка-палітычны рух, у шэрагах якога ёсьць прыхільнікі як хрысьціянскай дэмакратыі, так і лібэралізму і сацыял-дэмакратыі, абмежаваўся статусам назіральніка, каб мець магчымасьць падтрымліваць рабочыя кантакты з партыямі краін Усходняй Эўропы, што стаяць на пазыцыях прызнаньня правоў асобы, незалежнасьці, самавызначэньня й салідарнасьці ўсіх народаў.

**Юры ХАДЫКА**

## З.Пазьняк. Вытрымкі з выступленьня

У 1918 годзе, больш чым праз сто гадоў расейскай няволі, Беларусь вярнула сваю незалежнасць. Аднак у канцы 1918 году яна была зноў акупаваная войскам бальшавіцкай Расеі і толькі праз 73 гады, у жніўні 1991г., змагла аднавіць страчаны сувэрэнітэт на 2/3 сваёй тэрыторыі ў межах былой Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Рэспубліка Беларусь дастаткова разьвітая ў эканамічных адносінах дзяржава зь вялікімі індустрыяльнымі фондамі і вытворчым патэнцыялам у эканоміцы, сельскай гаспадарцы, навуцы, з добрым запасам навукаёмістай вытворчасьці ды інтэлектуальнай сфэрай. Гэта была рэспубліка-донар, што вытварала больш, чым спажывала, яна ўвозіла сыравіну і вытварала тавары, канцавы прадукт. Аднак эканоміка яе ў значнай ступені была зарыентаваная не на ўнутраныя патрэбы ды інтарэсы Беларусі, а на імпэрскія абшары Савецкага Саюзу. Больш як 70 працентаў беларускага экспарту прыпадае на Расею. У той жа час Расея зьяўляецца адзіным пастаўшчыком нафты й газу на Беларусь. (Здабыча сваёй нафты невялікая - 25 працэнтаў ад гадавой энэргетычнай патрэбы і 9 працэнтаў ад эканамічнай патрэбы). Такое становішча, асабліва ўлічваючы імпэрскую палітыку Расеі, вельмі небясьпечнае для Беларусі. Тут неабходна было пераменіць, пераарыентаваць плыні рэсурсаў і вытворчасьці, умацаваць сувэрэнітэт Беларусі, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў дзяржавы, адчыніць дарогу рынкавым рэформам у эканоміцы і дэмакратычным пераўтварэньням.

Аднак прайшоў год, і ані Вярхоўны Савет, ані ўрад не зрабілі практычна нічога ў гэтым кірунку. Большасьць канструктыўных прапановаў Апазыцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце адмяталася з парогу. Не вырашанае пытаньне пра прыватную ўласнасьць на зямлю, няма закону аб прыватызацыі, сабатуецца стварэньне нацыянальнай фінансава-крэдытнай сыстэмы і пераход на ўласную валюту. Сьледаваньне ураду ў хвасьце расейскае палітыкі прывяло да бурнага росту інфляцыі, да некіраванага росту цэнаў, да рабаваньня сыравіны й багацьцяў дзяржавы, да катастрафічнага дэфіцыту бюджэту, да зьбядненьня насельніцтва, да беспрацоўя, да згортваньня дэмакратычных пераўтварэньняў.

Выхад з гэтакага становішча быў толькі адзін: зьмена старога камуністычнага кіраўніцтва на дэмакратычны парлямант і дэмакратычны ўрад шляхам нечарговых выбараў. Такая магчымасьць узьнікла пасьля прыняцьця Закону аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме).

У пачатку 1992 г. стараньнямі Беларускага Народнага Фронту ды іншых дэмакратычных партыяў была створана Ініцыятыўная група па правядзеньні рэфэрэндуму аб роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савета й правядзеньні нечарговых выбараў парляманту. У вызначаны тэрмін было сабрана больш чым 442 тысячы подпісаў (паводле Закону неабходна 350 тысячаў). Гэта больш як 6 працэнтаў выбаршчыкаў. Збор подпісаў адбываўся пры моцных перашкодах з боку ўладаў. Тым ня менш Ініцыятыўная група рэфэрэндуму скрупулёзна выканала задачу, пільнуючыся сэнсу і літары Закона. Закон нідзе не быў парушаны.

Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме, якая прызначаецца Вярхоўным Саветам, праверыла згодна Закону правільнасьць сабраных подпісаў, прызнала іх законнасьць і сапраўднасьць і адлюстравала гэта ў Заключэньні - дакуманце, якім прымаецца рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму. Згодна Закону аб рэфэрэндуме (артыкул 14), Вярхоўны Савет пасьля атрыманьня такога Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме павінен прызначыць дату правядзеньня рэфэрэндуму, альбо сам прыняць рашэньне, якое прапануецца на рэфэрэндум.

Такім чынам Ініцыятыўнаю групай па рэфэрэндуме і дэмакратычнымі сіламі Беларусі з датрыманьнем усіх патрабаваньняў Закону працэс выхаду на рэфэрэндум быў даведзены да лягічнага і юрыдычнага завяршэньня. У Вярхоўнага Савету не было іншага выйсьця, як выканаць Закон, Канстытуцыю і прызначыць дату рэфэрэндуму. Камуністычная намэнклятура была загнаная ў кут сваімі ж уласнымі законамі, якія выканаў народ.

І тут намэнклятура пацьвердзіла сваю бальшавіцкую прыроду, непавагу да закону, да правоў чалавека, да думкі народу. У канцы красавіка 1992 г. Вярхоўны Савет, каб не разглядаць пытаньне пра рэфэрэндум, раптоўна, парушыўшы пры гэтым рэглямэнт, спыніў сэсію і распусьціўся на паўгадавыя канікулы. Калі ж праз паўгода давялося ўсе ж сабрацца і вырашаць пытаньне аб прызначэньні даты рэфэрэндуму, намэнклятурна-камуністычная большасьць Вярхоўнага Савета, якая складае 86 працэнтаў усіх дэпутатаў, груба і цынічна парушыўшы Закон, Канстытуцыю Беларусі, правы людзей, забараніла рэфэрэндум, адхіліла яго правядзеньне.

У пастанове Вярхоўнага Савету пры гэтым мае месца адкрытая фальсіфікацыя, галаслоўнае сьцьверджаньне аб быццам бы парушэньні Закону Ініцыятыўнаю групай, без спасылкі на якія-небудзь доказы, рашэньні, палажэньні Закону. Гэта ў той час, калі паводле Закону Вярхоўны Савет пасьля станоўчага Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме ня мае права й магчымасьці ўвогуле прымаць іншае рашэньне, акрамя прызначэньня даты правядзеньня ўсенароднага галасаваньня. І тым ня менш 29 кастрычніка 1992 года гэты беспрэцэдэнтны акт беззаконнасьці быў зьдзейсьнены.

Ацэнка гэтага цынічнага рашэньня аб адхіленьні рэфэрэндуму і грубага парушэньня Вярхоўным Саветам Беларусі Канстытуцыі, Закону пра рэфэрэндум і правоў чалавека дадзеная Народным Фронтам, парлямэнцкай Апазыцыяй БНФ ды Ініцыятыўнай групай рэфэрэндуму ў адпаведных дакументах, зваротах і заявах, якія часткова надрукаваныя. Паколькі на рэфэрэндум вынесенае пытаньне пра роспуск гэтага камуністычнага Вярхоўнага Савету і пра нечарговыя выбары, вынік рашэньня Вярхоўнага Савету ёсьць ня што іншае, як незаконнае ўтрыманьне ўлады і фактычная яе ўзурпацыя посткамуністычнаю намэнклятурай. 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўны Савет Беларусі фактычна паставіў пад сумненьне сваю легітымнасьць. У праўным дачыненьні ўсе заканадаўчыя акты, якія будуць прынятыя гэтым намэнклятурным сходам пасьля 29 кастрычніка, ня маюць ужо ранейшай абавязковай сілы. Стварылася даволі небясьпечная для грамадзтва сытуацыя. Прааналізаваўшы яе, Апазыцыя БНФ прыйшла да высновы аб неабходнасьці заставацца ў Вярхоўным Савеце легітымнаю яго часткай, заняўшы жорсткую крытычную пазыцыю, ня лічачы абавязковым для сабе прымаць удзел у галасаваньні, але крытыкаваць, кантраляваць прыняцьцё законаў, назіраць і дамагацца адмены антыканстытуцыйнай пастановы. Асноўны цяжар працы пераносіцца за сьцены Вярхоўнага Савету, дзе галоўным стане стварэньне камісіяў па кантролі за раскраданьнем дзяржаўнай уласнасьці намэнклятурай, фармаваньне новых і ўмацаваньне існуючых дэмакратычных структураў, выбарчых камісіяў па рэфэрэндуме.

Што датычыць палітычнае заявы Вярхоўнага Савету пра выбары ўвесну 1994 г. пасьля прыняцьця новай Канстытуцыі – гэта блеф. Вярхоўны Савет з прычыны дэструктыўных суадносін сілаў ня ў стане прыняць ніякай новай Канстытуцыі. А значыць, юрыдычна ня можа правесьці нечарговыя выбары. Цяперашняя Канстытуцыя гэтага таксама не дазваляе. Таму і патрэбны рэфэрэндум. Паўтара года, аднак, дастатковы тэрмін, каб пры адсутнасьці эканамічных рэформаў ці "паўрэформаў" канчаткова раскрасьці дзяржаўную ўласнасьць і дарэшты разбурыць вытворчасьць, пакінуўшы народ Беларусі голым на сваёй зямлі.

Аднак справа нават ня Ў тым, што дзяржавай кіру-юць крымінальнымі мэтадамі. Камуністычны ўрад Беларусі, пад уплывам якога знаходзіцца Вярхоўны Савет, дамагаецца праз сваё лёбі рэанімацыі структураў КПСС–КПБ на Беларусі. Пытаньне пра гэта пастаўлена ў парадак дня 10–й сесіі, якая цяпер адбываецца. Яны ўсур'ёз думаюць пра рэанімацыю старога камуністычнага рэжыму на Беларусі, пра аднаўленьне СССР, зьнішчэньне нэўтралітэту Беларусі і ваенны саюз з Расеяй і т.п.

Нельга дапусьціць рэстаўрацыі камунізму ў нашай краіне. Мы поўныя рашучасьці змагацца за аднаўленьне законнасьці ды адмену антыпраўнага, антыканстытуцыйнага рашэньня Вярхоўнага Савету, разумеючы ролю Беларусі ў гэтай частцы Эўропы, шанцы і пэрспектывы беларускага дэмакратычнага адраджэньня. Мы ня думаем, што падзеі з забаронай рэфэрэндуму на Беларусі могуць застацца па-за ўвагай Эўрапейскай дэмакратычнай супольнасьці.

## Паважаныя суродзічы!

Надзвычай добра, што ўрэшце прыйшоў час, калі землякі з-за межаў некалі антыбеларускай таталітарнай бээсэсэры сустрэліся ў такім маштабе ў сталіцы сваёй незалежнай Радзімы – Беларусі. Для кожнай краіны, што скідае імпэрскае ярмо, галоўным пытаньнем будучыні зьяўляецца адраджэньне ў грамадзтве роднай культуры.

Вяртаньне культуры – гэта ня толькі ўвядзеньне ў жыцьцё відавочных зьменаў у дзяржаўнай сымболіцы, пераход радыё, тэлевізіі, прэсы на родную мову й паўсюднае карыстаньне гэтай жа моваю. Вельмі важным аспэктам культуры зьяўляюцца і стан навакольнай прыроды, вобраз вуліцы, паркаў, выгляд будынкаў, міжчалавечыя адносіны. Культура краіны вызначае, як адчувае сябе ў ёй і мясцовы жыхар, і вандроўнік зь любога кутка сьвету. Недастаткова ганарыцца шматвяковай культурнай спадчынай, калі сёньняшняя культура краіны зьяўляецца моцна непрыязьлівай, няветлівай да прыезджага чалавека. Каб лічыцца народам высокай культуры, дык, апрача наяўнасьці літаратурнага, музычнага, мастацкага жыцьця і далікатных асабістых паводзінаў, трэба споўніць шэраг іншых, ня менш важных крытэрыяў цывілізаванасьці ў шырокім яе значэньні.

Не можа быць мовы пра бясспрэчнае далучэньне Беларусі да сям'і цывілізаваных эўрапейскіх краінаў без дасягненьня адпаведнага ўзроўню народнага дабрабыту. І ня можа быць мовы пра дасягненьне дабрабыту без стварэньня варункаў для здаровага развіцьця гаспадаркі і падвышэньня культуры працы.

У апошнім часе ў новай беларускай дзяржаве актыўна разбураецца постімпэрская ізаляванасьць. Шматлікія замежныя прадпрыемствы навязваюць эканамічныя дачыненьні зь яшчэ ўчора недаступнай Беларусьсю. Аднак як прадстаўнік фірмы "Амега" з беларускай Беласточчыны і сябра Ўправы Згуртаваньня беларусаў Канады, мушу сьведчыць, што варункі такіх зносінаў далёка адбягаюць ад нармальных.

Апрача абсурднай зьявы на беларуска-польскай мяжы, дзе камэрсантам часта прыходзіцца стаяць па некалькі дзён у чарзе, сытуацыю пагаршае зарганізаваная і незарганізаваная злачыннасьць ў Рэспубліцы. Стан паўсюднае небясьпекі ня толькі абмяжоўвае гаспадарчыя сувязі Беларусі з вонкавым сьветам. Перадусім ён тарпэдуе ўсялякія формы эканамічнага ўздыму краіны. Няма мовы, каб поўны энтузіязму прадпрымальнік адкрыў нейкую вытворчасьць, калі гэтым ён сьцягвае на свае плечы беспардонных і жорсткіх тэрарыстаў.

Крытычны стан правапарадку на Беларусі ўсім вядомы з уласнага досьведу. На жаль няшмат увагі адводзяць да гэтаму пытаньню адказныя ўлады і сродкі інфармацыі. Маўляў, так у нас ёсьць і нічога ня зробіш, а ў Расеі ці ў Казахстане яшчэ горай – бязрадна адказваюць нашыя суродзічы ў Менску ці Горадні.

На маю думку, сытуацыя блізкая да стану ананімнай вайны мафіяў супраць насельніцтва. Разьвіцьцё такога стану пагражае неўмацаванай дэмакратыі анархіяй і бяспраўем. Толькі адкрытаю вайной супраць эпідэміі росту крымінальнасьці адказныя структуры незалежнай Беларусі здолеюць вярнуць краіну на шлях да свабоды.

Для прыкладу можна тут узгадаць меры, прынятыя адміністрацыяй Прэзыдэнта ЗША Дж.Буша супраць наркатычных картэляў ці апошнія антымафіёзныя акцыі ў Італіі. У абодвух выпадках выкарыстоўваліся дзяржаўныя вайсковыя фармаваньні.

Стварэньне бясьпечных умоваў жыцьця ў краіне паспрыяе і развіцьцю эканомікі, што дазволіць разьвівацца і й квітнець беларускай культуры ў найшырэйшым сэнсе.

**Алесь Палескі**

## Прэм'ера

19 сьнежня ў Вялікім тэатры опэры і балету адбылася прэм'ера опэры А.Бандарэнкі "Князь Наваградзкі" (лібрэта В.Ліпатавай паводле п'есы Л.Пракопчыка, пастаноўка С.Штэйна, мастак Д.Мохаў ).

Прэм'ера прайшла зь вялікім посьпехам. Гэта, фактычна, харавая опэра з мноствам масавых сцэнаў. Трэба адзначыць добрыя галасы сьпевакоў, высокую мастацкую культуру спэктакля і бездакорную сцэнаграфію, асабліва калярыстыку масовак і асобных сцэнаў, выкананых у сьветлых чыстых колерах з акцэнтацыяй высакароднага белага. Гэта надало спэктаклю вобраз адметнай чысьціні. Не адбылося, вядома, і безь недахопаў, асабліва што датычыць гістарычнай праўды паводзінаў. Пастаноўшчык павінен ведаць, што баярская дачка ў XIII стагодзьдзі ня стане нястрымана кідацца на шыю каханаму малайцу ды яшчэ ў прысутнасьці бацькі. Зрэшты, пастаноўка, што да асобных дэталяў, яшчэ можа ўдасканальвацца. У цэлым жа опэра адбылася. Пастаноўка яе – безумоўнае дасягненьне Вялікага тэатру.

**Мар'ян Ванькевіч**

## "РЭАНІМОВА"

Праз два гады аднавілася выданьне гарадзенскай беларускай газэты "Рэанімова". Дванаццаты нумар яе выйшаў у кастрычніку на васьмі палосах у паліграфічным выкананьні. (Раней, у 1989–1990г.г. гэта было самвыдавецтва на машынцы праз ксэракс). Рэдакцыйны артыкул напісаны Данутай Бічэль. Зьмешчаны матэрыялы пра Ларысу Геніюш і Зоську Верас, інтэрвію з Аляксеем Карпюком (з 1991 году) палітычныя агляды, развагі, меркаваньні, вершы Алеся Чобата.

## ГЭТА ЦІКАВА!

На прэсавай канфэрэнцыі, што адбылася пасьля зьезду беларусаў "бліжняга" замежжа, здарыўся эпізод, які можа паўплываць на посьпех Сусьветнай сустрэчы беларусаў улетку 1993 г. На пытаньне сп. А.Палескага, які рэпрэзэнтаваў беларускіх прадпрымальнікаў зь Беласточчыны, ці адбудзецца афіцыйная рэабілітацыя беларускай пасьляваеннай эміграцыі, адказаў намесьнік Старшыні Савету Міністраў Рэспублікі Беларусі М.Дзямчук. Ён падкрэсьліў, што разумее неабходнасьць палітычнага вырашэньня гэтага пытаньня, якое, аднак, знаходзіцца ў кампэтэнцыі Вярхоўнага Савету. Спаслаўся на імкненьне Ўраду да ўсталяваньня шырокіх кантактаў з замежжам і запэўніў, што ня будзе ніякіх ідэалягічных перашкодаў для наведваньня Бацькаўшчыны эмігрантамі.

Потым слова ўзяў сп. Б.Сачанка, імя якога было згадана як прыклад людзей, што зусім нядаўна друкавалі абразьлівыя і тэндэнцыйныя артыкулы пра эміграцыю. Па яго словах, моладзь дарма ідэалізуе беларускую дыяспару, што быццам бы ёй ён абавязаны тым, што ў дзяцінстве быў вывезены ў Нямеччыну. "Няхай яны ня думаюць, што мы будзем ставіць ім помнікі," – закончыў ён сваю прамову.

Не закранаючы юрыдычнага й маральнага боку ўзьнятае праблемы, усё ж цікава даведацца, ад чыйго імя пагражаў "ім" сп. Сачанка і хто даў яму права вінаваціць людзей агулам? Ці ня сталінскія "тройкі", якія не гублялі шмат часу на пошукі доказаў віны, а прысуд выносілі па праве моцнага? Ці не забыў ён, што ў грамадзянскіх войнах не бывае праўды навогул, а бываюць толькі пераможцы і пераможаныя? І што распальва-ючы варожасьць да пераможаных, ён ставіць пытаньне аб віне і маральнай адказнасьці пераможцаў? Тым больш што іх права і прывяло да сёньняшняга крызісу й нястачы.

Цікава таксама і тое, што сп. Лецка – кіраўнік "Бацькаўшчыны" – не знайшоў магчымасьці абратаць распаленага пісьменьніка.

**Юры Хадыка**

# Беларусь – наш дом

## Заява Сойму БНФ "Адраджэньне"

Працяг зь першай старонкі

і свайму мафіёзнаму асяродзьдзю спрыяльныя ўмовы для манапольнага ўзбагачэньня. Зрэшты, стварэньнем гэтых умоваў даўно займаецца прамаскоўскі і пракамуністычны Саўмін.

Відавочна, толькі Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і дэмакратычныя партыі, што разам выступілі за рэфэрэндум, застаюцца адзінаю палітычнаю сілаю, якая цьвёрда й пасьлядоўна адстойвае незалежнасьць Беларусі, інтарэсы народу, законнасьць. БЕЛАРУСЬ – НАШ ДОМ. ЗЬБЕРАЖЭМ ЯГО!

У сувязі з тым, што раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці на карысьць посткамуністычных структураў дасягнула беспрэцэдэнтных памераў, лічым абавязковым распачаць стварэньне грамадзкіх камісіяў для кантролю за вынікамі манапольнай і прывілеяванай прыватызацыі ў Беларусі і грамадзкага расьсьледаваньня злоўжываньняў.

Стаўленьне да Вярхоўнага Савету пасьля ягонай адмовы прызначыць дату рэфэрэндуму стала водападзелам палітычных сілаў Беларусі. Адбылася палярызацыя ў самім Вярхоўным Савеце, дзе толькі Апазыцыя БНФ бараніла законнасьць і правы чалавека, галасуючы за выкананьне волі выбаршчыкаў. Сэсія Вярхоўнага Савету працягвае працу з усё меншай эфэктыўнасьцю: яна ня ў стане ані кампэтэнтна абмеркаваць, ані тым больш прыняць Асноўны закон краіны; не жадае рэалізаваць права прыватнай уласнасьці на зямлю, за якое выказваецца пераважная большасьць народу; зьніжаецца якасьць прыйманых законаў. Але эканамічная сытуацыя зь непазьбежнасьцю абвастраецца. Адзінае, чым цяперашні Вярхоўны Савет зможа запабегчы абвалу ў грамадстве, – перагледзець сваё антызаконнае рашэньне і прызначыць дату рэфэрэндуму. Падрыхтоўку да правядзеньня рэфэрэндуму лічым мэтазгодным распачаць з вылучэньня кандыдатураў у камісіі па рэфэрэндуме.

Мы выступаем за ўмацаваньне блёку "Рэфэрэндум" і за стварэньне на яго базе выбарчага аб'яднаньня. Сойм пацьвярджае, што бачыць у задзіночаньні БНФ і дэмакратычных партыяў пэрспэктыву перамогі дэмакратыі, адстаяньня і ўмацаваньня незалежнай дзяржаўнасьці, аздараўленьня эканомікі, дабрабыту, нацыянальна-культурнага адраджэньня – ЛАДУ Ў НАШЫМ БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ.

14 лістапада 1992 г.

# Супольная заява

## грамадзка-палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, аб'яднаных у блёк "РЭФЭРЭНДУМ"

Працяг зь першай старонкі

закону – гэта рэальны, законны, мірны шлях выхаду з палітычнага крызісу.

Зыходзячы зь неабходнасьці забесьпячэньня правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай Дэклярацыяй правоў чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй і заканадаўствам Беларусі, мы настойваем на выкананьні законнай і належным чынам юрыдычна аформленай волі грамадзянаў Беларусі. Мы выступаем за аб'яднаньне нашых арганізацыяў дзеля каардынацыі намаганьняў у гэтым кірунку.

Лічым мэтазгоднымі супольнымі дзеяньнямі:

– стварэньне з удзелам дэпутатаў і прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных сілаў грамадзкіх камісіяў, якія возьмуць пад кантроль ход прыватызацыі ў Беларусі і будуць ажыцьцяўляць грамадзкія расьследаваньні злоўжываньняў;

– вылучэньне кандыдатураў у камісіі па выбарах новых органаў улады.

Мы пакідаем аб'яднаньне адкрытым для партыяў і арганізацыяў, якія падзяляюць нашае стаўленьне да Вярхоўнага Савету як структуры, што ўтрымлівае ўладу незаконным шляхам.

**За Аб'яднаную дэмакратычную партыю Беларусі – Станіслаў ГУСАК**
**За Беларускі Наорданы Фронт "Адраджэньне" – Вінцук ВЯЧОРКА**
**За Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду – Алег ТРУСАЎ**
**За Беларускую сялянскую партыю – Яўген ЛУГІН**
**За Беларускую хрысьціянска-дэмакратычную злучнасьць – Міхась АРЭШКАЎ**
**За Менскі гарадзкі страйкавы камітэт – Сяргей АНТОНЧЫК**
**За Нацыянальна-дэмакратычную партыю Беларусі – Алесь АПРЫШКА**
**За Свабодны прафсаюз Рэспублікі Беларусі – Генадзь БЫКАЎ**

10 лістапада 1992 г.
г. Менск.

# Зварот Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму да грамадзянаў Беларусі.

Працяг зь першай старонкі

прадугледжана Законам аб рэфэрэндуме, практыкаваўся націск, шантаж і запалохваньне грамадзянаў, што зьбіралі подпісы, і тых, хто падпісваліся за рэфэрэндум. У асобных выпадках чыноўнікі выканкамаў патрабавалі і бралі грошы з членаў Ініцыятыўнай групы за засьведчаньне іх подпісаў на падпісным лісьце. Антызаконныя дзеяньні ўладаў пацьверджаны дакумэнтамі (актамі, тлумачальнымі запіскамі, грашовымі квітанцыямі і г.д.). Тэндэцыйна, у карысьць уладаў дзейнічалі таксама пэўныя службовыя асобы Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму, якія ўдзельнічалі сумесна з прадстаўнікамі ўрадавых структураў у пасяджэньнях па выпрацоўцы мерапрыемстваў супраць Ініцыятыўнай групы, перадавалі ім інфармацыю аб членах Ініцыятыўнай групы для рассылкі на месцы іх жыхарства, дзе некаторыя зь іх цярпелі рэпрэсіі ад мясцовых уладаў.

У гэтых умовах Ініцыятыўная група працавала дакладна і дысцыплінавана, у поўнай адпаведнасьці з патрабаваньнямі Закону. Ні адна літара Закону не была праігнараваная, парушэньня заканадаўства не зафіксавана. Праверка, якую на працягу месяца ажыцьцяўляла Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме Рэспублікі Беларусі разам з 49-ю адказнымі работнікамі апарату Саўміну і Вярхоўнага Савету – тых структураў, супраць якіх скіраваны рэфэрэндум – пацьвердзіла сапраўднасьць сабраных подпісаў. Няма ніводнага выпадку фальсіфікацыі, падробкі подпісаў.

Адкінуўшы лісты, якія былі аформлены зь некаторымі адхіленьнямі ад фармальных патрабаваньняў Закону (звыш 80% ад усіх такіх адхіленьняў зроблены мясцовымі органамі ўлады пры засьведчаньні подпісаў членаў Ініцыятыўнай групы пячаткай), Цэнтральная камісія вымушана была канстатаваць наяўнасьць сабраных і аформленых належным чынам подпісаў у колькасьці, значна большай за неабходную, і прыняла тым самым рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму. Заставалася прызначыць толькі дату галасаваньня, што згодна з Законам павінен быў зрабіць Вярхоўны Савет.

Аднак Вярхоўны Савет ухіліўся ад выкананьня сваіх абавязкаў. Дзеля гэтага ён спыніў, ня скончыўшы, вясновую сэсію і паўгода не зьбіраўся.

Такім чынам, уся падрыхтоўка да рэфэрэндуму адбывалася пры цынічным ігнараваньні і парушэньнях заканадаўства з боку Вярхоўнага Савету і падуладных яму структураў.

Апагеем цынізму стала рашэньне аб забароне рэфэрэндуму са спасылкай на парушэньні Закону Ініцыятыўнай групай. Вярхоўны Савет "пастанавіў", што ініцыятары парушылі артыкулы 11 і 13 Закону аб рэфэрэндуме , але не спаслаўся ні на водзін факт парушэньняў. Бо іх няма!

Неабгрунтаванасьць пастановы Вярхоўнага Савету відавочная нават таму, што артыкул 13 ўвогуле не рэгламантуе дзейнасьць Ініцыятыўнай групы, а толькі працу Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму. Вярхоўны Савет, кінуўшы абвінавачваньні ў адрас Ініцыятыўнай групы, нават ня даў магчымасьці адказаць на іх, двойчы прагаласаваўшы супраць прадастаўленьня слова старшыні Ініцыятыўнай групы.

Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму канстатуе, што неабгрунтаваная забарона рэфэрэндуму па пытаньні аб зьмене Вярхоўнага Савету шляхам нечарговых усеагульных выбараў ёсьць узурпацыя ўлады намэнклятурнай большасьцю.

Ініцыятыўная група ня лічыць выкананымі свае абавязкі перад 442 тысячамі грамадзянаў, што выказаліся за рэфэрэндум, і заяўляе, што будзе дамагацца перагляду незаконнага рашэньня ўсімі магчымымі сродкамі. Пры гэтым, як і раней, мы будзем кіравацца прынцыпам безумоўнай павагі да Закону, прынцыпам "не адказваць насільлем на насільле", нягледзячы на гвалтоўнасьць дзеяньняў уладаў.

Ініцыятыўная група зьвяртаецца да грамадзянаў Беларусі, незалежна ад іх палітычных поглядаў і стаўленьня да пытаньня рэфэрэндуму, з заклікам аб'ядноўвацца супраць гвалту і беззаконьня з боку ўладаў. Ніхто ня можа лічыць сябе абароненым ад самадурства і злачынстваў чынавенства, пакуль ня будзе дзяржаўных структураў, якія паважаюць Закон і правы асобы. Але гэтага ня будзе ніколі, пакуль кожны з нас будзе спакойна назіраць, як зьневажаюць іншага, спадзеючыся, што яго такі лёс абміне.

Як абыдуцца з кожным з нас улады заўтра, калі сёньня яны растапталі законныя правы паўмільёна грамадзянаў?

Толькі ў адзінстве сіла народу. Патрабаваньне прызначэньня даты рэфэрэндуму павінна стаць галоўным пры любых формах сацыяльнай актыўнасьці: у пісьмах і тэлеграмах Вярхоўнаму Савету, у сродкі масавай інфармацыі, у рэзалюцыях мітынгаў і сходаў, у патрабаваньнях падчас страйкаў.

Абараніўшы закон, мы абаронім сябе і сваю будучыню!

Прынята Канфэрэнцыяй
Ініцыятыўнай групы
14 лістапада 1992 г.,
г.Менск

# Зварот Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму да міжнароднай супольнасьці

Ад пачатку гэтага году народ Беларусі жыў чаканьнем усебеларускага рэфэрэндуму. На ўсеагульнае галасаваньне мела быць вынесена пытаньне аб датэрміновых выбарах новага складу вышэйшага органа дзяржаўнай улады Беларусі на шматпартыйнай аснове.

Цяперашні Вярхоўны Савет быў выбраны ў часы камуністычнай дыктатуры і на 86 працэнтаў складаецца з прадстаўнікоў былой камуністычнай эліты. Ён праводзіць антыдзяржаўную, антынародную палітыку. Будучы выбраным да развалу СССР, ён ня стаў вышэйшым органам улады незалежнай дзяржавы, застаючыся прадстаўнічым органам ускраіны імпэрыі. Такая палітыка выклікае незадавальненьне грамадзянаў Беларусі і вядзе да ўзмацненьня напружанасьці, да сацыяльных канфліктаў з непрадказальнымі наступствамі.

У гэтых умовах напачатку 1992 году Беларускі Народны Фронт (дэмакратычны рух на Беларусі) і дэмакратычныя партыі і арганізацыі Беларусі прапанавалі канстытуцыйны шлях да карэнных рэформаў. Такім шляхам мог стаць усебеларускі рэфэрэндум. Гэта была ініцыятыва зьнізу, народжаная і падтрыманая самым народам. За няпоўныя два месяцы было сабрана 442 тысячы подпісаў грамадзянаў Беларусі ў падтрымку рэфэрэндуму. Гэта значна перавышае мінімум у 350 тысячаў, неабходны па беларускіх законах.

Гэтая ініцыятыва народу выклікала магутнае супрацьдзеяньне з боку ўладаў. Практыкаваўся націск, шантаж і запалохваньне грамадзянаў, якія зьбіралі подпісы і падпісваліся за рэфэрэндум. Чыноўнікі выканаўчых органаў улады адмаўляліся засьведчваць подпісы старшыні і члена Ініцыятыўнай групы пячаткамі, што прадугледжана Законам аб рэфэрэндуме.

Нягледзячы на ўсе перашкоды і правакацыі, Ініцыятыўная група працавала спакойна і дакладна, выконваючы ўсе патрабаваньні Закону. У поўнай адпаведнасьці з Законам усе сабраныя подпісы былі перададзены ў Цэнтральную Камісію па рэфэрэндуме Рэспублікі Беларусі. На працягу месяца Камісія з удзелам адказных супрацоўнікаў Савету Міністраў і Вярхоўнага Савету правярала сабраныя подпісы. У выніку Камісія прызнала іх сапраўднасьць і законнасьць, пра што 12 траўня 1992 году было складзена Заключэньне Камісіі і перададзена ў Вярхоўны Савет. Заставалася прызначыць дату галасаваньня – гэта і толькі гэта павінен паводле Закону зрабіць Вярхоўны Савет.

Аднак вышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларусі пайшоў па шляху парушэньня Закону і правоў чалавека. Спачатку ён на працягу паўгода ўхіляўся ад рэфэрэндуму, не праводзячы паседжаньняў. А 29 кастрычніка насуперак Закону прыняў пастанову аб забароне рэфэрэндуму, тым самым гвалтоўна парушыўшы права амаль паўмільёна грамадзянаў. Права выказаць свае адносіны да палітыкі кіраўніцтва дзяржавы канстытуцыйным, дэмакратычным шляхам – галасаваньнем. Права, агульнапрызнанае ва ўсім цывілізаваным сьвеце, права, гарантаванае грамадзянам Беларусі Канстытуцыяй і Законам аб рэфэрэндуме, міжнароднымі пагадненьнямі па ахове правоў чалавека.

Рашэньне аб забароне рэфэрэндуму – гэта спроба задушыць маладую дэмакратыю на Беларусі. Нельга дазволіць, каб гэтая спроба была пасьпяховай. Рэцыдыў таталітарных паводзінаў кіраўніцтва Беларусі стварае небясьпечны прэцэдэнт, бо гэта ставіць пад сумненьне магчымасьць канстытуцыйнага пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі.

У гэтых умовах Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму заяўляе, што будзе і надалей кіравацца выключна правілам безумоўнай павагі да законаў, да правоў чалавека. Не адказваючы насільлем на насільле, мы будзем дамагацца выкананьня Закону, выкананьня волевыяўленьня 442 тысяч грамадзянаў Беларусі. Мы будзем дамагацца правядзеньня рэфэрэндуму канстытуцыйнымі, дэмакратычнымі сродкамі.

Ініцыятыўная група ўсебеларускага рэфэрэндуму зьвяртаецца за падтрымкай гэтых намаганьняў да міжнароднай супольнасьці. Лёс дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе вырашаецца сёньня на Беларусі.

Прынята Канфэрэнцыяй Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму
14 лістапада 1992 г.,
г. Менск

Улічваючы адрасаванасьць гэтай Заявы замежнаму чытачу, "***Навіны***" зьмяшчаюць на наступнай старонцы яе пераклад на ангельскую мову.

*Рэфэрэндум павінны адбыцца. Гэта воля народу, і грэбаваць ёю ня мае права ніхто.*

# Заява

## ў сувязі з рашэньнем Вярхоўнага Савету Беларусі аб забароне рэфэрэндуму

Ужо больш як год Беларусь зьяўляецца незалежнай дзяржавай, але народ ня стаў гаспадаром у сваёй краіне. Урад ня толькі ня мае канструктыўнай праграмы эканамічных рэформаў, але навогул не кантралюе эканамічную сытуацыю, а толькі бязвольна цягнецца за сумнеўнай расейскай палітыкай. Вярхоўны Савет не жадае, дый ня можа прымаць неабходных захадаў дзеля ўмацаваньня суверэнітэту Рэспублікі Беларусі і пабудовы дзяржавы на прынцыпах свабоды, роўнасьці магчымасьцяў, павагі да чалавечай годнасьці.

Больш таго, у Рэспубліцы мацнее атмасфэра безадказнасьці й свавольства. Прадстаўнікі намэнклятуры больш дбаюць пра ўласнае багацьце, чым пра дабрабыт народу. Інфляцыя перарасла ў гіпэрінфляцыю, а ўзровень жыцьця насельніцтва апускаецца ніжэй за рысу жабрачага існаваньня. У вельмі цяжкім становішчы апынуліся пэнсіянэры, настаўніцтва, мэдыкі, навукоўцы, творчая інтэлігенцыя. У заняпадзе вёска, дзе надалей пануе калгасна-саўгасная сыстэма. Вярхоўны Савет не жадае вярнуць сялянам зямлю ва ўласнасьць.

Тымчасам урад сканцэнтраваў уладныя функцыі, усталяваў кантроль над сродкамі масавай інфармацыі, ажыўляе і падбухторвае экстрэмісцкія рэакцыйныя сілы. Распальваецца брудная кампанія вакол уяўнай праблемы дзяржаўнага двумоўя з мэтай расколоць і без таго разгубленае й заблытанае грамадзтва. Стала рэальнай пагроза рэанімацыі таталітарнае сыстэмы.

Апошняе рашэньне Вярхоўнага Савету гвалтоўна перакрэсьліла ініцыятыву амаль паўмільёну грамадзянаў Беларусі, парушыла натуральнае права народу на ўдзел у кіраваньні дзяржавай, забараніла людзям цывілізаваным шляхам выказаць свае адносіны да палітыкі Вярхоўнага Савету і ўраду.

Крызісны стан грамадзтва вымушае нас, прадстаўнікоў творчай і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, зьвярнуцца да дэпутатаў, якія ня страцілі пачуцьця адказнасьці перад народам, з заклікам вярнуцца да разгляду пытаньня аб прызначэньні даты рэфэрэндуму аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савету і новых выбарах. Рэфэрэндум – мірны, канстытуцыйны шлях да карэннай палітычнай рэформы, якая толькі й можа стварыць неабходныя ўмовы для іншых дэмакратычных рэформаў, для нармалізацыі і паляпшэньня жыцьця, для адраджэньня нашага народу.

1. **Эдвард Агуновіч** – заслужаны работнік культуры Беларусі;
2. **Валянціна Алейнікава** – кандыдат тэхнічных навук;
3. **Мікола Антонішын** – доктар тэхнічных навук;
4. **Сяргей Арынкін** – кандыдат тэхнічных навук;
5. **Уладзімер Арлоў** – член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі;
6. **Станіслаў Астапчык** – акадэмік АНБ, дырэктар фізыка-тэхнічнага Інстытута АНБ;
7. **Рыгор Барадулін** – народны пісьменьнік Беларусі;
8. **Сьвятлана Бельская** – кандыдат біялягічных навук;
9. **Яўграф Бельскі** – доктар тэхнічных навук, прафэсар;
10. **Міхась Біч** – доктар гістарычных навук;
11. **Эма Бурава** – кандыдат біялягічных навук;
12. **Васіль Быкаў** – народны пісьменьнік Беларусі;
13. **Аляксандар Валуеў** – кандыдат тэхнічных навук;
14. **Валянціна Вяргей** – кандыдат гістарычных навук;
15. **Ружа Ганчарова** – доктар біялягічных навук;
16. **Радзім Гарэцкі** – Віцэ-прэзыдэнт АНБ, дырэктар Інстытута геахіміі і геафізыкі АНБ;
17. **Вадзім Гіль** – кандыдат тэхнічных навук;
18. **Сяргей Грахоўскі** – член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі;
19. **Уладзімер Гуленка** – кандыдат гістарычных навук;
20. **Сьцяпан Гурын** – кандыдат тэхнічных навук;
21. **Анатоль Грыцкевіч** – доктар гістарычных навук, прафэсар;
22. **Віктар Дзербан** – кандыдат фізыка-матэматычных навук;
23. **Людміла Дучыц** – кандыдат гістарычных навук;
24. **Алесь Емельянаў** – член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі;
25. **Уладзімер Емельянчык** – кандыдат гістарычных навук;
26. **Эдвард Зайкоўскі** – кандыдат гістарычных навук;
27. **Сяргей Законьнікаў** – галоўны рэдактар часопіса "Полымя";
28. **Анатоль Зэкаў** – першы намесьнік галоўнага рэдактара газэты "Добры вечар";
29. **Валяньцін Іванчанка** – доктар біялягічных навук;
30 **Алег Іоў** – кандыдат гістарычных навук;
31. **Вольга Іпатава** – член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі;
32. **Уладзімер Калітка** – кандыдат тэхнічных навук;
33. **Лявон Калядзінскі** – кандыдат гістарычных навук;
34. **Уладзімер Камароў** – акадэмік АНБ, дырэктар Інстытута неарганічнай хіміі;
35. **Пётра Капітула** – доктар эканамічных навук, прафэсар;
36. **Віктар Каролік** – кандыдат тэхнічных навук;
37. **Міхась Кашалёў** – кандыдат гістарычных навук;
38. **Генадзь Каханоўскі** – доктар гістарычных навук;
39. **Уладзімер Крукоўскі** – мастацкі рэдактар часопіса "Спадчына";
40. **Мікола Крывальцэвіч** – кандыдат гістарычных навук;
41. **Вікент Крыловіч** – доктар тэхнічных навук;
42. **Павал Кужыр** – кандыдат фізыка-матэматычных навук;
43. **Яўген Кулік** – мастак;
44. **Вольга Ліпніцкая** – кандыдат гістарычных навук;
45. **Аляксей Літвін** – кандыдат гістарычных навук;
46. **Павал Лойка** – кандыдат гістарычных навук;
47. **Леанід Лыч** – доктар гістарычных навук;
48. **Іван Макаловіч** – кандыдат гістарычных навук;
49. **Аляксей Марачкін** – мастак;
50. **Аляксандар Міклашэвіч** – кандыдат тэхнічных навук;
51. **Віталь Міронаў** – кандыдат тэхнічных навук;
52. **Іван Нікітчанка** – генэральны дырэктар ТАА "Агранавука";
53. **Мікола Пруднікаў** – кандыдат тэхнічных навук;
54. **Вячаслаў Рагойша** – кандыдат філялягічных навук;
55. **Юры Санько** – кандыдат тэхнічных навук;
56. **Рыгор Сітніца** – мастак;
57. **Уладзімер Собалеў** – доктар тэхнічных навук;
58. **Язэп Стапановіч** – кандыдат біялягічных навук;
59. **Зоя Сярова** – доктар біялягічных навук;
60. **Рыма Тофпелец** – доктар тэхнічных навук;
61. **Юры Хадыка** – доктар фізыка-матэматычных навук, прафэсар;
62. **Аляксандар Чычко** – кандыдат тэхнічных навук;
63. **Вячаслаў Чамярыцкі** – кандыдат філялягічных навук;
64. **Міхась Чарняўскі** – кандыдат гістарычных навук;
65. **Валеры Шаблюк** – кандыдат гістарычных навук;
66. **Вадзім Шадыра** – кандыдат гістарычных навук;
67. **Леанід Шарахоўскі** – кандыдат тэхнічных навук;
68. **Язэп Юхо** – доктар юрыдычных навук, прафэсар;
69. **Алег Ясько** – доктар тэхнічных навук;
70. **Вячаслаў Яфрэмцаў** – кандыдат тэхнічных навук;

## Свабода, салідарнасьць, справядлівасьць

### Хрысьціянская дэмакратыя – што гэта?

**Юры Хадыка**

Свабода, салідарнасьць, справядлівасьць.

Гэтыя словы вынесеныя на вокладку праграмы ХДС Германіі. Яны ж служаць лёзунгам – сымбалем міжнароднага аб'яднаньня партыяў, якія адмаўляюць амаральную палітыку, клясавую барацьбу як рухавік прагрэсу, таталітарызм і анархію як форму дзяржаўнай улады. Нашае грамадзтва мала ведае пра сьветапогляд і палітычную практыку гэтай сучаснай сацыяльна-палітычнай плыні, якая прадстаўлена партыямі і саюзамі пад назвамі кансэрватыўныя, народныя, хрысьціянска-дэмакратычныя.

Гэта ня дзіўна, бо не адыйшоў у мінулае суцэльны мэтанакіраваны нагляд за сродкамі масавай інфармацыі. Не адыйшоў у мінулае і чорна-белы падзел заходніх палітычных партыяў, навязаны нашаму грамадзтву бальшавікамі, для якіх усё тое, што адрозьнівалася ад камунізму, было плёнам апраметнай і падлягала дыскрэдытацыі й зьнішчэньню.

Разам з тым палітычны спэктар дэмакратычных краінаў вельмі багаты. Вопыт дзейнасьці разнастайных партыяў у галіне права, эканомікі, сацыяльнай абароны, адукацыі й культуры для нас сёньня вельмі цікавы і актуальны. Той духоўны вакуум, які ўтварыўся пасьля развалу струхлелай камуністычнай ідэалёгіі, мусіць быць запоўнены. ! лепш, калі гэта адбудзецца з улікам вопыту сталых дэмакратычных дзяржаваў.

З гэтага гледзішча хрысьціянская дэмакратыя – найцікавейшая. Яе сьветапогляд грунтуецца на хрысьціянскіх каштоўнасьцях, гэтаксама як наша традыцыйная культура. У пасьляваенны час, калі хрысьціянска-дэмакратычныя партыі адрадзіліся ў краінах, вызваленых з-пад гнёту таталітарных рэжымаў, менавіта яны сталі ініцыятарамі і актыўнымі ўдзельнікамі гаспадарчага й духоўнага адраджэньня нямецкага і італьянскага народаў. Асабліва выразны прыклад Германіі, дзе хрысьціянскія дэмакраты К.Адэнаўэр і Л.Эрхард сталі бацькамі нямецкага "цуду", стварыўшы самую эфэктыўную эканоміку ў сьвеце і вярнуўшы народу пачуцьцё годнасьці ды самапавагі а краіне – сталы міжнародны аўтарытэт.

Сёньня шэсьць краін Эўрапейскай супольнасьці з дванаццаці маюць урады, якія ўзначальваюцца хрысьціянскімі дэмакратамі. Прадстаўнікі гэтай палітычнай плыні складаюць другую па велічыні пасьля сацыял-дэмакратаў фракцыю ў Эўрапарляманце. Хрысьціянска-дэмакратычныя партыі зьяўляюцца вядучай палітычнай сілай у большасьці краінаў Цэнтральнай і Лацінскай Амерыкі. А зусім нядаўна на Філіпінах хрысьціянскія дэмакраты ў саюзе з мусульманскімі атрымалі перамогу і ў прэзыдэнцкіх, і ў парляманцкіх выбарах.

Ня трэба думаць, што хрысьціянска-дэмакратычныя партыі – гэта рэлігійныя арганізацыі ці яны кантралююцца рэлігійнымі канфэсіямі. Гэта сучасныя сьвецкія партыі, адкрытыя для ўсіх людзей, якія падзяляюць нормы хрысьціянскай этыкі і палітычныя прынцыпы, што вынікаюць з хрысьціянскага сьветагляду. У палітычным спэктры яны займаюць правацэнтрысцкія пазыцыі паміж сацыял-дэмакратыяй зь левага боку і лібэралізмам – з правага.

Як пасьлядоўная, цэласная і ўплывовая палітычная плынь, хрысьціянская дэмакратыя склалася толькі пасьля Другой сусьветнай вайны, хаця як ідэялёгія зарадзілася яшчэ ў XIX стагодзьдзі. Яна грунтуецца на прызнаньні самакаштоўнасьці чалавечай асобы, яе свабоды й годнасьці; на прызнаньні роўнасьці людзей і права на роўныя магчымасьці рэалізацыі сваіх здольнасьцяў; на прызнаньні, нарэшце, права чалавека на выбар і яго адказнасьці за свой лёс.

Чалавек свабодны, і як маральная істота ён павінен быць у стане прымаць разумныя і адказныя рашэньні, паколькі рэалізацыя чалавечага жыцьця не–магчымая без суіснаваньня зь іншымі людзьмі. Гэтае суіснаваньне рэалізуецца ў сям'і й грамадзянскай супольнасьці. Хрысьціянская дэмакратыя разглядае сям'ю, як найважнейшую інстытуцыю і спрыяе яе ўмацаваньню й дабрабыту. Галоўным прынцыпам функцыянаваньня грамадзкай супольнасьці яна лічыць салідарнасьць. Салідарнасьць паміж багатымі і беднымі, прадпрымальнікамі і працоўнымі, адукаванымі ды ўплывовымі і шараговымі грамадзянамі. Салідарнасьць немагчымая без маралі. Таму хрысьціянская дэмакратыя выступае за падтрыманьне маральнасьці і ўзбагачэньня духоўнага жыцьця.

Але адной маралі недастаткова, каб у грамадзтве ўсталяваўся мір і супрацоўніцтва. Гарантам гэтага служыць прававая дзяржава. Права ўнівэрсальнае. Яно абараняе асабістую годнасьць чалавека і забясьпечвае свабоду. Рэалізацыя права на свабодны выбар і роўныя магчымасьці патрабуе сацыяльнай справядлівасьці. Таму ўсталяваньню ў грамадзтве сацыяльнай справядлівасьці хрысьціянская дэмакратыя надае найвялікшую ўвагу. Яна лічыць мэтай палітычнай дзейнасьці забесьпячэньне матар'яльных умоваў для свабоды і зьнішчэньня ненатуральнай залежнасьці чалавека ад маёмасных умоваў яго існаваньня.

Свабоднае раскрыцьцё асобы адбываецца на глебе найбольш справядлівага разьмеркаваньня магчымасьцяў і даброт. Прыватная ўласнасьць значна пашырае сфэру свабоды чалавека. Таму хрысьціянская дэмакратыя выступае за тое, каб найбольшая колькасьць грамадзянаў стала ўласьнікамі. Тое, што сёньня называецца народным капіталізмам, ёсьць вынік рэалізацыі такой палітыкі. За апошнія дваццаць год у перадавых краінах Заходняй Эўропы ўласьнікамі стала большасьць насельніцтва.

Буйныя прадпрыемствы пераўтварылі ў акцыянэрныя кампаніі. Пры гэтым кожны сталы працаўнік валодае акцыямі і зьяўляецца ня толькі наёмным рабочым, але і гаспадаром кампаніі. Аднак галоўнае ў тым, што дзяржава спрыяе дробнатаварнай вытворчасьці і сямейнаму бізнэсу ў сфэры паслуг. Высьветлілася, што арганізаваная такім чынам гаспадарка і больш эфэктыўная, і больш гнуткая, чым заснаваная на буйнатаварнай вытворчасьці, ня здольная хутка рэагаваць на зьменлівыя рынкавыя ўмовы і навукова-тэхнічны прагрэс.

Зразумела таксама, што гарантыяй свабоды й справядлівасьці зьяўляецца і разьвітая сыстэма сацыяльнай абароны. Яна спалучае як лібэральны прынцып "зарабі сабе сам", так і дзяржаўную падтрымку тых, хто з аб'ектыўных прычынаў ня ў стане забясьпечыць сабе прыстойныя ўмовы для існаваньня. Гэта не сацыялістычны прынцып ураўнілаўкі, і тыя даброты, якія разьмяркоўвае дзяржава, залежаць ад працоўнага ўкладу кожнага. Але пры эфэктыўнай эканоміцы і грамадзкім міры сродкаў хапае для прыстойнага ўтрыманьня нават злачынцаў, не кажучы пэнсіянэраў ды інвалідаў.

З сказанага відаць, у якой ступені здароўе грамадзтва і дабрабыт дзяржавы залежаць ад этычнасьці грамадзкіх узаемадачыненьняў, ад дзейнасьці хрысьціянскага сьветагляду. Хрысьціянская дэмакратыя разглядае грамадзтва як складаны арганізм, падзелены на спэцыфічныя сацыяльныя групы, якія ўзаемадзейнічаюць на аснове прынцыпу салідарнасьці, а не знаходзяцца ў стане антаганістычных супярэчнасьцяў, як лічыць марксізм. Для гэтага хрысьціянская дэмакратыя спрыяе ўтварэньню прфэсійных аб'яднаньняў як працоўных, так і прадпрымальнікаў, культурніцкіх і палітычных арганізацыяў і структураў, імкнецца да наладжваньня пастаяннага дыялёгу гэтых структураў зь дзяржаўнымі органамі. Яна выступае за абарону і разьвіцьцё культурнай спадчыны, падвышэньне ўзроўню духоўнасьці свайго народу.

Нарэшце, яна выступае за маральную палітыку і не прызнае лёзунгу "палітыка – брудная справа", які так добра характарызуе стан сёньняшняга палітычнага жыцьця ў Беларусі.

У кароткай натацы цяжка апісаць усе прынцыповыя і цікавыя бакі хрысьціянска-дэмакратычнай палітыкі, акрамя найважнейшых, гэтаксама як намаляваць выразныя рысы складанага шляху пераходу да канцавой мэты. Спадзяюся, што са сказанага відаць, наколькі мэты, абвешчаныя БНФ, блізкія да хрысьціянска-дэмакратычных ідэалаў. Таму добра ўжо тое, што ў адказны момант выбару генэральнага кірунку грамадзкіх і гаспадарчых рэформаў, які няўмольна набліжаецца, у нас ёсьць натхняльныя ўзоры для насьледаваньня й вучобы.

## APPEAL OF THE INITIATIVE GROUP OF THE ALL-BELARUSAN REFERENDUM TO THE INTERNATIONAL COMMUNITY

The people of Belarus had been waiting for the all-Belarusan Referendum from the beginning of the year. The question concerning the pre-term elections on the multiparty principles of the new structure of the highest body of the Belarus state power should be proposed for the general voting.

The present Supreme Soviet was elected during the communist dictatorship and 86% of it are the representatives of the former communist party. It pursues the anti-state and anti-national policy. Being elected before the dissolution of the Soviet Union it doesn't become the highest body of the supreme power in the independent state, still remaining the representative organ of the empire outlying. Such policy displeases the citizens of Belarus and leads to the increasing of tension and to social conflicts with unforeseen consequences.

Under existing conditions at the beginning of 1992 the Belarusan Popular Front (the democratic movement in Belarus) and democratic parties and organizations of Republic of Belarus proposed the constitutional way towards the radical reforms. The all-Belarusan Referendum could be the such way. It was the initiative "from below" which has been born and supported by the people. During 2 short months 442 thousand of signatures of citizens were gathered in Belarus for the Referendum support. This is considerably more than the minimum (350 thousand ) demanded by the Belarusan Laws.

This initiative of the people provoked the strong resistance on the part of the authorities. The citizens who gave their signatures for the Referendum as well as who collected them were exposed to pressure, blackmail and intimidation. Officials of the executive organs of power refused to attest the signatures of the chairman and the members of the Initiative Group with seals of the executive authorities as it was provided by the Law on Referendum.

Despite all obstacles and provocations the Initiative Group worked calmly and thoroughly fulfilling all demands of the Law. In the perfect accordance with the Law all gathered signatures were handed over to the Central Commission on Referendum of the Republic of Belarus. Commission with the help of responsible officials of the Supreme Soviet and the Soviet of Ministers had been checking the all gathered signatures for a month. As a result the Commission admitted its legality and validity, about what the Commission's final report was worked out on 12th May and handed over to the Supreme Soviet. The only one thing that the Supreme Soviet was obliged to do according to the Law — to determine the date of Referendum.

However the highest organ of the Belarus state power chose the way of violation of the Law and the Human rights. At first it failed to convene its Session for half a year and thus delayed the decision on the Referendum, then on 29th October violating the Law adopted the decision about the Referendum rejection, ignoring the constitutional right of almost half a million of citizens. The right — to manifest their relation to the state policy by the constitutional democratic way — by voting. The right — generally accepted in the all civil world, the right — guaranteed to the citizens by the Constitution and the Law on Referendum, by the International agreements on Protection the human rights.

The decision to reject the Referendum — is the attempt to suppress the young democracy in Belarus. This attempt should not be allowed to be successful. The recidivism of the totalitarian behavior of Belarusan authorities created unsafe precedent because it cast doubt on the possibility of the constitutional transition from totalitarism to democracy.

On this conditions the Initiative Group of the all-Belarusan Referendum declares that it would follow only the rules of undoubted respect to the laws and human rights. We shall not answer for violence by violence and shall try to achieve the execution of the Law and the wish of 442 thousand of Belarusan citizens. We shall use all the constitutional and democratic ways for our struggle for Referendum.

The Initiative Group of all-Belarusan Referendum appeals to the International Community for support of this efforts. The destiny of democracy in Eastern Europe is determined to-day in Belarus.

Adopted by the Conference of the Initiative Group of the all-Belarusan Referendum
November 14, 1992, Miensk

# Вучыцца высакароднай дабрыні

Нягледзячы на тое, што прайшло ўжо шэсьць з палоевай год, як звалілася на нашыя плечы страшэнная Чарнобыльская бяда, а ў паўсядзённым жыцьці ўсё яшчэ цяжка ў поўнай меры асэнсаваць межы гэтай катастрофы, да канца зразумець, як моцна і, магчыма, на вякі пакараў нас за грахі нашыя Бог... Больш рэальна ўявіць гэтыя межы могуць пакуль што толькі дактары, спэцыялісты-навукоўцы. У нас, звычайных жыхароў пакутніцы–Беларусі, на жаль, усё яшчэ наперадзе. Бо толькі падрастаюць яшчэ дзеткі, якіх жорстка апаліў Чарнобыль. А сумная статыстыка ракавых захворваньняў, значна падарваны агульны стан здароўя нашай будучыні – пакаленьня, якое падрастае – пакуль што па-за межамі асэнсаванага ўяўленьня грамадзтва.

Вось і падрастае Ігарок у дзіцячым доме N 1 г.Менска – вясёлы, жывы хлопчык. Радуецца жыцьцю, гасьцям, якія наведваюць, і зь нейкім нават азартам дэманструе свае ножкі, якія хутчэй могуць нагадаць ласты... Такі шчыры і адкрыты, ён з радасьцю ідзе на рукі да любога, чые вочы адгукаюцца на яго ўсьмешку, і шчыльна прыціскаецца да цябе, моцна абхапіўшы сваёй адзінай ад нараджэньня, але вельмі дужай ручкай.

А потым ужо немагчыма забыць яго разумныя вочкі, якія выдаюць здаровы ад прыроды інтэлект. Што чакае яго, шчырага, жыцьцярадаснага калеку ад нараджэньня?..

А дзетак-інвалідаў зь дзяцінства ў дзіцячым доме, што на Разінскай, -- шэсьцьдзесят дзевяць. Іх бацькі – ня выродкі-п'яніцы ці наркаманы. Гэтых дзетак нарадзілі жанчыны, якія выношвалі іх у зонах Чарнобыля. Многія з бацькоў наведваюць дзіцячы дом, не адракаюцца ад свайго, роднага. Але для іх утрыманьня неабходны спэцыяльны дагляд і ўмовы... Некаторыя зь іх увогуле "не жыльцы", але любоў, ласка і пяшчота людзей, якія працуюць у Доме, не выбіраюць толькі "пэрспэктыўных". Здаецца, любоўю напоўнена паветра Дома. Пяшчота, цярплівасьць і духоўная вышыня чытаецца на тварах выхавальнікаў, дактароў, нянечак. Сюды можна прыходзіць вучыцца высакароднай дабрыні. А такая "вучоба" нам неабходная, бо не хапае нашага сэрца ў складаным сёньняшнім жыцьці, часам жабрацкім, прыніжаным чэргамі, дарагоўляй.

Але ня ўсё адняў у нас Вялікі Божа, калі



На здымку: Галоўны ўрач дзіцячай клінікі №4 В.Стругач, в.а. галоўнага ўрача дзіцячага дому №1І.Толсцік, Г.Вашчанка, В.Лангенбан, Л.Верас

пакінуў нам Надзею і Падтрымку і паслаў нам шчырых сяброў. Яны ёсьць. І вельмі жадаюць дапамагчы, асабліва хворым дзецям. Ім толькі надзвычай важна пераканацца, што дапамога, якая ідзе ад іхных сэрцаў, дойдзе менавіта да тых, каму неабходная найперш.

Вось і прыяжджаюць да нас сябры зь Нямеччыны. Дай Божа і нам застацца людзьмі перад імі: сумленна давесьці іх дапамогу да хворых дзяцей...

Не першы раз прыяжджае на Беларусь бізнэсмэн зь Нямеччыны Вэрнэр Лянгенбан са сваімі суайчыньнікамі. Здавалася б, чаго не хапае гэтаму заможнаму чалавеку? Якія струны душы прымушаюць яго яшчэ і яшчэ раз наведваць маю Бацькаўшчыну і нястомна ёй дапамагаць? Менавіта з такім пытаньнем зьвярнуўся да спадара Лянгенбана журналіст і пачуў у вадказ: "Не забывайцеся, бізнэсмэны таксама людзі."

Упершыню давялося пазнаёміцца са сп. Лянгенбанам у канцы жніўня 1992 году. Мэта ягонага прыезду – наведваньне дзіцячых шпіталяў, жаданьне ўвачавідкі пераканацца ў няпростым нашым становішчы. Разам зь ім прыехалі сябры і замежныя журналісты. Сярод іх – наша суайчынніца, карэспандэнт беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" Ларыса Верас. Мы столькі разоў чулі на кароткіх хвалях яе голас! Яна шчыра дапамагала Бацькаўшчыне сваёй працай, а зараз прыехала зь нямецкімі сябрамі, каб іхнае жаданьне дапамагчы маленькім хворым беларусам мела найбольш эфэктыўныя вынікі.

Уражаны цяжкімі хваробамі дзетак, што знаходзяцца ў гематалягічным Цэнтры, якім кіруе доктар В.Алейнікава, ён прэзэнтаваў Цэнтру чэк на 37 тысяч нямецкіх марак.

Усюды, дзе пабывалі нашыя госьці, рабіў фотаздымкі аўстрыйскі фотажурналіст сп. Р.Урбанэк. Потым здымкі хворых дзетак былі надрукаваныя ў нямецкіх і аўстрыйскіх газэтах і зрабілі вельмі вялікае ўражаньне.

Не прайшло і двух месяцаў, як з Баварыі, дзякуючы пэўным намаганьням сп. Лянгенбана ды іншых нашых сяброў з Германіі, да нас прыбыла калёна аўтафургонаў з мэдыкамэнтамі, медабсталяваньнем, дзіцячым харчаваньнем для немаўлят ад Баварскага Чырвонага Крыжу. Усё гэта амаль на тры мільёны нямецкіх марак. І – ніякага складаваньня. Госьці самі разгружаюць сваю дапамогу ў дзіцячым доме N 1, дзіцячым шпіталі N 4, дзіцячым садку N 65 (потым частку дапамогі – харчаваньне для немаўлят, якое папала ў садок, перадаем у дзіцячы шпіталь N 3).

І вось зусім нядаўна, некалькі дзён таму, сп. Лянгенбан зноў наведаў Менск.

Прыемна было пабачыць тое, што набыла для Цэнтра сп-ня Алейнікава на падараваныя грошы. Але жаданьне даведацца аб праблеме глыбей накіроўвае гасьцей ў дыспансэр радыяцыйнай мэдыцыны, што на Чырвонаармейскай, дзе самаахвярна працуюць цудоўныя спэцыялісты. З сумам расказваюць яны пра свае мэдычныя дасьледаваньні. Уважліва слухае іх народны дэпутат Рэспублікі З.Пазьняк, бо менавіта праз Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" ажыцьцяўляюцца гэтыя сувязі. Са спачуваньнем ставяцца да шматлікіх патрэбаў дыспансера нямецкія госьці. І як вынік візыту – сп. Лянгебан перадае галоўнаму доктару дыспансэра В.А.Ржэвуцкаму чэк на 25 тысяч марак.

Затым накіроўваемся ў дзіцячы дом N 1, які так запомніўся гасьцям зь першага візыту. На іх патрэбы сп. Лянгенбан таксама ахвяруе 10 тысяч марак.

Не абмінае госьць і чацьверты дзіцячы шпіталь. "Падарунак у памеры 20 тысяч марак дапаможа вырашыць важныя праблемы з мэдычнай апаратурай,"– з удзячнасьцю гаворыць галоўны доктар шпіталю сп-ня В.Стругач.

Безумоўна, было б найлепш, калі б не спатрэбілася нам такая дапамога. Каб змаглі ратаваць сваіх дзяцей мы самі... Але сёньня гэта надзвычай складана. Вось і дасылае нам Бог сяброў, у якіх вялікае сэрца.

**Галіна Вашчанка,**
в.а. старшыні Камітэту "Дзеці Чарнобыля"
Беларускага Народнага Фронту
"Адраджэньне",
народны дэпутат Менгарсавету.

# Незалежнай Беларусі – беларускае войска.

Апошняе, што засталося пасьля развалу СССР, -- гэта Савецкая Армія. Ужо існавалі незалежныя дзяржавы, урады, парляманты, а армія была, як і раней, "адзіная і недзялімая". Адным з галоўных законаў яе было: вайсковец павінен служыць як мага далей ад сваёй Радзімы, бо ў савецкіх людзей агульная Радзіма – СССР.

У выніку гэтае палітыкі да моманту стварэньня Міністэрства абароны Беларусі на яе тэрыторыі знаходзілася самая вялікая групоўка войскаў (прапарцыйна колькасьці насельніцтва), дзе было толькі 16% беларусаў. А каля 40 тысяч афіцэраў-беларусаў знаходзіліся за межамі Бацькаўшчыны, пры гэтым шмат хто зь іх пачаў выказваць жаданьне вярнуцца. Але ўрад і Вярхоўны Савет не рабілі рашучых захадаў для вяртаньня сваіх вайскоўцаў дамоў. Вярхоўны Савет прымаў нейкія пастановы, якія не выконваліся Саўмінам, а той, у сваю чаргу, рабіў усё, каб на тэрыторыю нашай Рэспублікі трапілі людзі, якія ня маюць ніякага дачыненьня да Беларусі. Тыя ж, каго трэба хутчэй вяртаць на Радзіму, былі пазбаўлены такой магчымасьці.

Вось чаму 9 кастрычніка 1992 году пры Беларускім Згуртаваньні Вайскоўцаў ( БЗВ ) быў створаны грамадзкі камітэт "Вяртаньне", у склад якога зараз уваходзяць прадстаўнікі БЗВ, Беларускага Народнага Фронту ( БНФ ), Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады ( БСДГ ), Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі ( НДПБ ), Беларускай сялянскай партыі ( БСП ), Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі ( АДПБ ), Партыі народнай згоды ( ПНЗ ), Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці ( БХДЗ ), Саюза кінематаграфістаў Беларусі, Саюзу афіцэраў Беларусі, Упраўленьня пагранвойскаў. Нашыя дзьверы заўсёды адчыненыя для прадстаўнікоў іншых партыяў ды рухаў, для грамадзянаў.

Камітэт "Вяртаньне" лічыць неабходным садзейнічаць вяртаньню на Радзіму вайскоўцаў ( і ў першую чаргу з "гарачых кропак" ), абароне грамадзянскіх, палітычных і сацыяльных правоў вайскоўцаў, якія праходзяць службу ў Рэспубліцы Беларусі, абароне правоў беларусаў -- уцекачоў зь іншых дзяржаваў. Камітэт займаецца распрацоўкай праграмы "Вяртаньне", рыхтуе матэрыялы для стварэньня альтэрнатыўных законаў "Аб міграцыі", "Аб уцекачах". Наш камітэт займаецца таксама прапагандай ідэі стварэньня Беларускага войска, ажыцьцяўляе грамадзкі кантроль за стварэньнем і выкананьнем законаў аб Беларускім войску, інфармуе пра гэта грамадзтва.

Выступы апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, прадстаўнікоў БЗВ, БСДГ, БНФ, нашага камітэту "Вяртаньне" па вайсковых пытаньнях у сродках інфармацыі даюць пэўныя вынікі. Урад пачынае прымаць рашэньні, якія закранаюць лёсы вайскоўцаў-беларусаў, ён атрымаў, нарэшце, даручэньне ад Вярхоўнага Савету стварыць да 1 траўня 1993 г. дзяржаўную праграму "Вяртаньне". Тэмпы, тэрміны й зьмест пастановаў не адпавядаюць сур'ёзнасьці праблемы, а таму трэба і надалей ствараць грамадзкую думку, уплываць на дзяржаўныя структуры, патрабаваць ад іх рашучых дзеяньняў.

Калі мы хочам быць вольным, паважаным народам, то павінны мець дзяржаву, сувэрэнітэт. Калі ж хочам гэты сувэрэнітэт абараніць – нам патрэбна сваё нацыянальнае войска, а стварыць такое войска можна, толькі вяртаючы дамоў афіцэраў -- грамадзянаў Беларусі, ствараючы для іх адпаведныя ўмовы, займаючыся нацыянальна-патрыятычным выхаваньнем, вывучэньнем гісторыі нашага народу, роднай мовы.

Міністэрства абароны ды значная частка Вярхоўнага Савету ў парушэньне Закону "Аб грамадзянстве" хочуць надаць грамадзянства Беларусі вайскоўцам – прадстаўнікам іншых дзяржаваў, у тым ліку і такім, якія пасьпелі прысягнуць Украіне ці Расеі. Гэта сьведчыць: нельга спадзявацца, што ў Міністэрстве абароны знойдуцца патрыёты, прыхільныя нашай дзяржаве людзі. Факты ж злоўжываньня службовым становішчам становяцца нормай на ўсіх узроўнях, а Міністэрства абароны рашучых захадаў не прымае. Таму адным з галоўных кірункаў работы нашага Камітэту на бліжэйшы пэрыяд будзе стварэньне незалежнай грамадзкай камісіі, якая б праверыла законнасьць пераводу на Беларусь вайскоўцаў і правяла атэстацыю кіраўнічых кадраў Міністэрства абароны Беларусі.

Тым, хто хоча супрацоўнічаць з камітэтам "Вяртаньне" ці каму патрэбная нашая дапамога, паведамляю яго каардынаты:
г. Менск-34, вул. Фрунзе, 5, пакой 306.
тэлефоны: 36-99-72, 21-09-51,

Галіна Сямдзянава,
Народны дэпутат Рэспублікі Беларусі,
старшыня Камітэту "Вяртаньне".



На здымку: Пасьля наведваньня лячэбных кабінэтаў Інстытуту радыяцыйнай мэдыцыны сп. В.Лангенбан уручыў галоўнаму ўрачу дыспансэра В.Ржэвуцкаму свой падарунак.

Прайшлі два месяцы пасьля забароны рэфэрэндуму. За ўвесь гэты час я не сустрэў ніводнага чалавека, які б лічыў, што Вярхоўны Савет не парушыў Закон. Нават актыўныя прыхільнікі ўладаў вымушаны прызнаваць, што Вярхоўны Савет паступіў вельмі груба і непаважліва да свайго народу.

Аднак адно пытаньне застаецца неразумелым для многіх: чаму гэта зроблена так груба і непрафэсійна? Ці ня лепш было ўсё ж даць слова Старшыні Ініцыятыўнай групы, "прыціснуць яго да сьцяны" сваімі пытаньнямі і, карыстаючыся манаполіяй на асьвятленьне сэсіі ў сродках інфармацыі, паказаць усяму грамадзтву, якая авантура гэты рэфэрэндум, якія злачынцы яго ініцыятары?

Шчыра кажучы, менавіта такіх паводзінаў мы чакалі. І рыхтаваліся да адкрытай барацьбы.

Пазыцыя Ініцыятыўнай групы была і застаецца настолькі ўпэўненай і абгрунтаванай, што не было патрэбы рабіць таямніцу з нашых аргумэнтаў. Гэтыя аргумэнты былі выкладзены пісьмова і напярэдадні разгляду раздадзены ўсім народным дэпутатам.

Дэпутацкая большасьць не змагла нічога супрацьставіць аргумэнтам і вынікам працы Ініцыятыўнае групы. Спалохаўшыся дыскусіі, яны схаваліся за эмацыйнаю дэмагогіяй сп. Булахава, ня даўшы магчымасьці на яе адказаць. Гэтая дэмагогія потым друкавалася і неаднаразова гучала на радыё.

Аднак слова ў абарону рэфэрэндуму ўсё ж прагучала, і ня толькі з вуснаў дэпутатаў Апазыцыі. Праўную, юрыдычную ацэнку падзеяў зрабіў Старшыня Камісіі па рэфэрэндуме, доктар юрыдычных навук, прафэсар А.Абрамовіч. Актыўны працiўнік рэфэрэндуму, ён, будучы прафэсіяналам вышэйшага ўзроўню, не дазволіў растаптаць свой прафэсійны гонар і не саступіў намовам, шантажу і пагрозам Вярхоўнага Савету. У яговай прамове і адказах на пытаньні ёсьць адказ на ўсё, што гучала з высокай трыбуны супраць рэфэрэндуму. Паколькі прамова сп. Булахава тыражавалася шырока й шматразова, а выступ сп. Абрамовіча паўсюдна замоўчваўся, сёньня мы прапануем яго Вашай увазе. Тэксты друкуюцца паводле афіцыйных стэнаграмаў Вярхоўнага Савету бяз правак і скаротаў.

Уладзімір Анцулевіч.

## Стэнаграма выступленьня сп. А.Абрамовіча 27 кастрычніка 1992 г.

Паважаныя народныя дэпутаты!

13 лютага 1992 года Цэнтральная камісія па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь зарэгістравала пытанне Ініцыятыўнай групы грамадзян на рэспубліканскі рэферэндум вядомага вам зместу. Хаця тут і заяўлялася, што заключэнне Цэнтральнай камісіі, магчыма, не падлягае крытыцы ў нейкім плане, тым не менш я якраз з гэтага часткова і хацеў бы пачаць.

На вялікі жаль, я сёння не магу канстатаваць, што тая фармулёўка пытання, якая была вынесена на рэферэндум, поўнасцю адпавядае патрабаванням часткі 4 артыкула 10 Закона аб рэферэндуме, дзе гаворыцца, што пытанне павінна быць сфармулявана Ініцыятыўнай групай дакладна і ясна, каб на яго быў магчымы адназначны адказ. Тым не менш пытанне было пастаўлена, і сёння трэба шукаць рашэнне, каб атрымаць гэты адназначны адказ, калі рэферэндум усё-такі ці будзе прызначаны ці не , бо гэта справа Вярхоўнага Савета.

Прававое рашэнне заключаецца, на мой погляд, у тым, што згодна з часткай 1 артыкула 15 у Пастанове Вярхоўнага Савета аб назначэнні рэферэндуму павінна быць фармуліроўка пастаўленага на рэферэндум пытання, якое, відаць, ужо змяніць нельга. А згодна з часткай другой гэтага ж артыкула на рэферэндум ставіцца даслоўна і тэкст праекта рашэння, у праватнасці па вынесенаму пытанню. Гэты тэкст праекта рашэння мае права сфармуляваць, на мой погляд, Вярхоўны Савет, з тым, каб ён адлюстроўваў, не мяняў сутнасці пытання і даваў адназначны адказ.

Тэкст праекта рашэння мог бы быць наступны: "Прыняць закон аб выбарах, прапанаваны БНФ, і правесці чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет 7 мая 1993 года". Гэта той мінімальны тэрмін, які можа наступіць, калі будзе дадзены, скажам, станоўчы адказ на пытанне рэферэндуму. Канечне, прымаць законы шляхам рэферэндуму, не абмеркаваўшы іх у парламенце, справа, мякка кажучы, не з лепшых. Але і аб гэтым, паважаныя народныя дэпутаты, трэба было думаць, прымаючы Закон аб рэферэндуме, які не забараняе такі шлях прыняцця законаў.

Другое. Адносна пастаўленага пытання – яго адпаведнасць патрабаванням Канстытуцыі. Згодна з артыкулам 172 змяненне Канстытуцыі праводзіцца рашэннем Вярхоўнага Савета. Але з Закона аб рэферэндуме вынікае, што на рэферэндум могуць выносіцца і разглядацца пытанні, прымацца рашэнні аб прыняцці і змяненні Канстытуцыі (артыкул 36, частка трэцяя, якія і лічацца прынятымі, калі за такія змяненні прагаласавала больш за дзве трэці грамадзян, унесеных у спісы для галасавання не прыняўшых удзел, падкрэсліваю, а ўнесеных у спісы), што мае месца і ў нашым выпадку.

Такім чынам, у наяўнасці была калізія нормаў Канстытуцыі і Закона аб рэферэндуме, аб чым паведамілі ў сваім заключэнні камісіі по рэферэндуму.

Адначасова ў заключэнні паважаных камісій было сказана, што на сэсіі Вярхоўнага Савета трэба ўнесці неабходныя змяненні ў Канстытуцыю і ў Закон аб рэферэндуме. Аднак фактычна другіх прапаноў не ўносілася. Таму Цэнтральная камісія па рэферэндуму гэту рэкамендацыю фактычна не тое што не ўлічыла, а пакінула нейкім чынам па-за ўвагай, паколькі заканчваўся тэрмін прыняцця рашэння. Было зарэгістравана, зыходзячы з артыкула 2 Канстытуцыі аб поўнаўладдзі народа і зыходзячы з таго, што найбольш важныя пытанні выносяцца на ўсенароднае галасаванне – рэферэндум...

Такім чынам, склалася сітуацыя, згодна з якой нормы Канстытуцыі рашэнне дадзенага пытання адносілі да ведама Вярхоўнага Савета, а Закон аб рэферэндуме дазваляў выносіць на рэферэндум. Канечне, з пункту гледжання юрыдычнай культуры неабходна было б кіравацца усё-такі нормамі Канстытуцыі. Тым не менш, як кажуць, "працэс пайшоў" ...(шум у зале) і пастаянныя камісіі зыходзілі з таго моманту, што тлумачыць закон і нават Закон аб рэферэндуме яны не маюць права, а вынясенне такіх пытанняў Закон аб рэферэндуме не забараняе. Закон аб рэферэндуме дакладна ўстанаўлівае працэс прыняцця рашэнняў па пытаннях змены і прыняцця Канстытуцыі.

Такім чынам, пытанне было зарэгістравана, хаця я не магу сказаць, што гэта рашэнне было бясспрэчнае, я не працаваў у той час у камісіях і не магу сказаць, што я яго падтрымліваю.

Далей. Калі названыя камісіі ўстанавілі, што патрэбны змены ў Канстытуцыю і ў закон і было прынята рашэнне Цэнтральнай камісіі аб прызначэнні рэферэндуму па дадзенаму пытанню... Вы павінны ведаць, паважаныя народныя дэпутаты, што Цэнтральная камісія па выбарах не валодае правам заканадаўчай ініцыятывы і ўвайсці з заканадаўчай ініцыятывай яна фактычна не можа. Таму мне сёння некалькі дзіўна бачыць праект пастановы, у якой прызнаецца неабходным не прызначаць правядзенне рэферэндуму. Чаму?

Калі было вынесена канстытуцыйнае пытанне, якое на думку паважаных пастаянных камісій і іх прадстаўнікоў, нельга было выносіць на рэферэндум, то чаму, калі не пачаўся яшчэ збор подпісаў, не было адменена гэта рашэнне Цэнтральнай камісіі? Фактычна не адмяніўшы гэтага рашэння Цэнтральнай камісіі, якое вынікала з калізій нормаў фактычна двух законаў, тым самым было санкцыяніравана дадзенае рашэнне і нададзена яму роля крыніцы права (источника права по-русски). Я бачу тут не недахоп, і калі лічыць, што Цэнтральная камісія ў дадзеным выпадку недакладна выканала патрабаванне закона, не лепшым чынам паступілі і нашы паважаныя камісіі, і перш за ўсё Камісія по заканадаўству.

Такім чынам, як бы гэта ні было зроблена, сёння вяртацца назад нам вельмі цяжка ў гэтым пытанні.

Я хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць, паважаныя народныя дэпутаты, на пасяджэннях камісій выявілася: большая частка не ведае, што для прыняцця рашэння па такіх пытаннях патрэбна дзве трэці галасоў ад колькасці грамадзян, якія ўнесены ў спісы выбаршчыкаў (не з'явіўшыхся на выбарчыя ўчасткі, а ўнесеных у спісы выбаршчыкаў). Вось такая сітуацыя сёння з пастаноўкай пытання.

У ходзе збору подпісаў узнік цэлы шэраг праблем, якія, як і папярэднія, у многім узнікалі з-за недакладнасці і супярэчнасцей тых ці іншых нормаў Закона аб рэферэндуме. Хатя былі, безумоўна, і іншыя прычыны. Так, згодна з часткай трэцяй артыкула 11 Закона пячаткай выканаўчага і распарадчага органа - Савета народных дэпутатаў - засведчваюцца завяраючыя подпісы старшыні і члена Ініцыятыўнай групы, якія збіралі подпісы. Засведчваць жа самі подпісы грамадзян, як аб гэтым думаюць некаторыя, у тым ліку паважаныя народныя дэпутаты, якія арганізавалі адпаведны запыт, закон не патрабуе. а калі выканкамы, зыходзячы з патрабаванняў закона, засведчваюць подпісы не грамадзян, падпісаўшыхся за рэферэндум, а фактычна подпісы зборшчыкаў гэтых подпісаў, то скажыце: як той ці іншы выканкам можа праверыць у выпадку неабходнасці праўдзівасць подпісаў грамадзян на падпісных лістах, чаго патрабуе закон? Вось у такой сітуацыі вымушана была працаваць Цэнтральная камісія і выносіць адпаведныя рашэнні. Выканкамам гэтыя ж лісты могуць проста не трапіць, таму што той, хто збірае подпісы, для засведчвання свайго асабістага подпісу можа прыйсці ў нейкі іншы выканкам, што не супярэчыць патрабаванням закона.

Яшчэ горшая сітуацыя склалася з патрабаваннем часткі трэцяй артыкула 11 закона аб тым, што кожны падпісны ліст павінен быць завераны не толькі членам Ініцыятыўнай групы, але і старшынёй. Паколькі член Ініцыятыўнай групы сам збірае подпісы грамадзян, то ніякіх праблем засведчвання яго асабістага подпісу не было. А вось адзін на ўсю Ініцыятыўную групу па рэспубліцы старшыня фактычна не мог заверыць уласным подпісам усе 125 тысяч падпісных лістоў. І, канечне, ён не мог замест падпісных лістоў утвараць нейкія папірусы тыпу цэлай абоймы шпалераў.

Такім чынам, у законе была закладзена працэсуальная норма, якая ці заведама, ні ненаўмысна была немагчымая для выканання адпаведных нормаў матэрыяльнага права, нормаў, якія даюць права грамадзянам на ўдзел у грамадскім жыцці шляхам выказвання сваёй волі пры правядзенні рэферэндумаў.

Цэнтральная камісія па выбарах (вось тут заяўлялася, што яна не выступала з прапановамі) двойчы ўносіла ў Вярхоўны Савет свае прапановы аб змяненнях гэтай няўдалай прававой сітуацыі. У прыватнасці, яшчэ да майго прыходу ў камісію ў пісьме ў Вярхоўны Савет ад 3 сакавіка 1992 года ставілася гэтае і шэраг іншых пытанняў. З маім прыходам у Цэнтральную камісію зноў было паднята і 30 сакавіка ўнесена пытанне аб некаторых змяненнях закона, што, магчыма, накіравала б працэс не ў прававы шлях, а ў шлях менавіта законнасці (у прыватнасці, адносна неабходнасці на кожным падпісным лісце завяраючага подпісу старшыні Ініцыятыўнай групы).

Аднак, нягледзячы на разуменне сітуацыі і адпаведную рэзалюцыю Васіля Іванавіча Шаладонава ў адрас камісій па правах чалавека і па заканадаўству, ніякага адказу Цэнтральная камісія па выбарах, паважаныя народныя дэпутаты, не атрымала. Такім чынам, мы вымушаны былі выходзіць на прыняцце канчатковага рашэння вось з такім заканадаўчым багажом.

Адзначу, што ў Законе аб рэферэндуме маецца і шэраг іншых "перлаў" заканатворчасці, якія немагчыма, як кажуць, практычна выконваць. Чаго толькі вартыя нормы закона, якія, з аднаго боку, гавораць аб выбарчых участках за мяжой, а з другога боку, кажуць, што прымаць удзел у рэферэндуме могуць толькі грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Мусіць, былі ў працэсе збору недахопы з боку і Цэнтральнай камісіі. Аб гэтым нельга не сказаць, але прымаць тыя рашэнні прыходзіцца ў найбольш складаных абставінах, у тых абставінах, калі неабходна выконваць закон, які, паважаны Дзмітрый Пятровіч, на вялікі жаль, у дадзеным выпадку можа быць толькі ахарактарызаваны як вынік "вашай удалай і вельмі разумнай працы".

І апошняе – аб праверцы падпісных лістоў. Я бачу, што тут ставяцца нейкія пытанні, нейкія кантэксты. Я разумею тую псіхалагічную сітуацыю, у якой знаходзяцца паважаныя члены Вярхоўнага Савета, нашы народныя дэпутаты. Канечне, пытанне накіравана супраць большасці членаў Вярхоўнага Савета. Каму гэта можа быць даспадобы? Тым не менш, прашу прабачэння, я хачу сказаць: праверку падпісных лістоў Цэнтральная камісія правяла з усёй неабходнай дакладнасцю і з усёй той паўнатой, якой патрабуе закон. У прыватнасці, Цэнтральная камісія праверыла кожны падпісны ліст, а не толькі тыя 2372 лісты, якія былі перададзены на почырказнаўчую экспертызу. Пры праверцы ўсіх падпісных лістоў выяўлялася адпаведнасць кожнага ліста і подпісу такім патрабаванням закона, як наяўнасць у іх прозвішча, імя і імя па бацьку, подпісаў членаў Ініцыятыўнай групы, месца жыхарства, даты нараджэння, даты падпісання ліста, нумару і рэквізітаў пашпарту і гэтак далей. І вось гэтыя пералікі дадзены вам у неабходным для гэтага выпадку заклю чэнні. У выніку было выяўлена, што з агульнай колькасці 446.061 сабраных подпісаў 51.363 подпісы былі прызнаны Цэнтральнай камісіяй як афармленыя з рознымі адступленнямі. І ці мы можам тут сказаць пра 67 працэнтаў, калі, скажам, грамадзянін замест Іваноў Іван Іванавіч напісаў Іваноў Іван І? Канечне, гэта былі недакладнасці ў выкананні закона, і яны Цэнтральнай камісіяй шляхам скрупулёзнага аналізу выяўляліся і фактычна выводзіліся за рамкі агульнага падліку.

Паважаныя народныя дэпутаты! Паколькі гэтыя недакладнасці былі, то Цэнтральная камісія рабіла неафіцыйную прапанову, каб члены Ініцыятыўнай групы гэтыя недахопы ліквідавалі ў двухтыднёвы тэрмін. Але Ініцыятыўная група адмовілася ад гэтага. Яна кажа: нашто нам? У нас і так подпісаў дастаткова. На падставе таго, што фактычна Ініцыятыўная група здымала гэтыя подпісы, мы не бачылі неабходнасці даваць ім гэты дадатковы тэрмін. Аднак, на вялікі жаль, пры праверцы лістоў выявілася таксама, што ў шэрагу з іх, а менавіта ў 2370 лістах, утрымліваюцца па два, а ў асобных выпадках і болей подпісаў, якія маюць значнае падабенства. Гэта было выяўлена шляхам уважлівага назірання і вывучэння ўсіх падпісных лістоў. Таму былі ўзяты подпісы не скопам, а толькі тыя, якія былі адобраны папярэдняй, калі можна так сказаць, экспертызай. Была арганізавана дадатковая праверка гэтых лістоў з выездам членаў камісіі ў Віцебск, Баранавічы, Магілёў, Барысаў і па горадзе Мінску.

Але справа паказала, што метад праверкі заснаваны на асабістым апытанні падпісаўшых лісты грамадзян – хоць і надзейны, але марудны. Такім чынам удалося праверыць толькі каля 80 подпісаў грамадзян, з якіх аказалася, што 20 былі ўчынены адной і той жа асобай. Таму і было вырашана астатнія 2372 лісты, што выклікалі ў членаў камісіі, калі можна так сказаць, неабходнасць у дадатковай упэўненасці, перадаць на почырказнаўчую экспертызу. Яна паказала, што камісія амаль не памылялася, бо ў 1598 лістах было па 2 і больш подпісаў, учыненых адной асобай. Але, згодна з патрабаваннямі часткі чацвёртай артыкула 11 закона, былі прызнаны несапраўднымі не толькі гэтыя тры з нечым тысячы подпісаў, якія былі ўчынены адной асобай, а ўсе амаль 7 тысяч подпісаў, якія ўтрымліваліся ў такіх падпісных лістах.

Такім чынам, фактычна яўнымі парушэннямі патрабаванняў Закона аб рэферэндуме была колькасць падпісных лістоў і подпісаў меней чым адзін працэнт ад агульнай колькасці сабраных подпісаў. Менавіта гэтую прыблізную лічбу трэба браць пры ацэнцы агульнай сітуацыі, а не ствараць уражанне, што ўсе подпісы сабраны, як тут гаварылася, злодзеямі (ці я не так зразумеў, магчыма). Парушэнні парушэнням розніца, і гэтага нельга не ўлічваць, калі быць добрасумленным і аб''ектыўным.

Канечне, нельга сцвярджаць, што ў падпісных лістах у асобных выпадках маглі б выявіцца некаторыя іншыя парушэнні, калі б праверка працягвалася. Але, зыходзячы з аналізу атрыманых даных, у Камісіі па рэферэндуму склалася ўражанне, што ў агульнай сітуацыі дадатковая праверка наўрад ці што змяніла б істотна. Лічба ў 383 тысячы подпісаў магла б змяніцца, каб Ініцыятыўная група выкарыстала дадзеную ёй законам магчымасць і паставіла на шэраг падпісных лістоў замест пячаткі агульнага аддзела таго ці іншага выканкама пячатку самога выканкама. Такім чынам, гэтая лічба павялічылася б на 46 тысяч подпісаў, якія сама Ініцыятыўная група зняла з агульнага падліку.

На абмеркаванні пытання на пасежданні камісіі некаторымі членамі каміссіі сцвярджалася, што, маўляў, Цэнтральная камісія павінна была праверыць кожны подпіс, пасадзіць за гэтую работу, калі патрэбна, усю рэспубліку.

На наш погляд, такой неабходнасці не было. Факты ўстаноўлены дакладна, як кажуць, выцякаючы з патрабаванняў закона. Акрамя таго,праверку робіць усё-такі, згодна з законам, сама камісія. А гэта азначае, што, прыцягваючы да праверкі ўсе іншыя магчымасці, тым не менш у кожным канкрэтным выпадку пры праверцы падпіснога ліста павінен прысутнічаць як мінімум адзін член камісіі. Таму надалей неабходна ўнесці адпаведныя змены ў закон і прадугледзець таксама, як гэта робіцца ў другіх цывілізаваных месцах, каб праверка непасрэдна арганізоўвалася на месцах. А на вышэйстаячым ўзроўні даваліся б пратаколы з утрыманнем адпаведных даных, на падставе якіх можна было б прымаць канкрэтныя рашэнні. І не лічыць, што функцыі, якія выконваюць участковыя выбарчыя камісіі, калі пералічваюць каля 100 тысяч чалавек, састаўляюць спісы і правяраюць іх, можа выканаць Цэнтральная камісія ў невялікай колькасці, якая прыцягнула толькі 40 чалавек адказных работнікаў.

Паважаны наш асноўны дакладчык! Калі ўжо Прэзідыум Вярхоўнага Савета даручыў вам падрыхтаваць пытанне амаль паўгода назад, дык падпісныя лісты (я адказваю і на запыт некаторых народных дэпутатаў) ужо амаль паўгода як перададзены ў Вярхоўны Савет. А за гэты час можна было б не толькі гэтыя 2 тысячы на почырказнаўчую экспертызу накіраваць, а яшчэ тысяч пяць праверыць... (Шум у зале)

Зыходзячы з таго, што былі выкананы патрабаванні артыкула 6 Закона аб рэферэндуме адносна ініцыятывы грамадзян, артыкула 10 аб стварэнні Ініцыятыўнай групы і рэгістрацыі Цэнтральнай камісіяй па рэферэндуму пытання, артыкула 12 аб тэрмінах рэалізацыі ініцыятывы грамадзян на правядзенне рэферэндуму і перадачы Ініцыятыўнай групай у Цэнтральную камісію заключнага акта разам з падпіснымі лістамі, якія адпавядаюць адносна 380 тысяч подпісаў патрабаванням артыкула 11 Закона, акрамя наяўнасці завяраючага подпісы старшыні Ініцыятыўнай групы. Цэнтральная камісія па рэферэндуму на падставе артыкула 13 Закона аб папярэднім (падкрэсліваю, папярэднім) разглядзе прапановы грамадзян аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і, згодна з артыкулам 25 Закона, аб прыняцці рашэнняў, Камісія па рэферэндуму ва ўстаноўлены законам тэрмін перадала сваё заклю чэнне (якое вы маеце на руках) разам з падпіснымі лістамі ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета. І цяпер слова за вамі, паважаныя народныя дэпутаты.

Адносна складу Цэнтральнай камісіі і што тычыцца непасрэдна мяне. Я падзяляю ўсю адказнасць, якую нясе Цэнтральная камісія за прынятае рашэнне, і, нягледзячы на тое, што, магчыма, некаторыя пункты гэтага заключэння пакажуцца спрэчнымі, тым не менш я лічу, што члены Цэнтральнай камісіі, якія многімі тут на папярэднім пасяджэнні абзываліся партакратамі і гэтак далей, добрасумленна выканалі свой абавязак, глыбока ўніклі ў змест законаў.

Зыходзячы з патрабаванняў і духу ўсяго Закона аб рэферэндуме, камісія прыняла гэтае папярэдняе (падкрэсліваю, папярэдняе) сваё заклю чэнне, якое, паважаныя народныя дэпутаты, вам трэба разглядзець. Што тычыцца, паважаны Дмітрый Пятровіч, што мы не падабаліся тым ці іншым (вы чыталі аб гэтым актыкулы), я мяркую так : мы добрасумленна выканалі свой абавязак, які вынікае з патрабаванняў закона, і як бы там ні было, у нас сумленне застаецца перад вамі чыстым, паважаныя народныя дэпутаты. А рашэнне за вамі.

